7 снежня 2018 | № 45 (608)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Хто баіцца Ягора Летава?
Стар. 9

**4 БАЛАНСАВАННЕ НА МЯЖЫ ФОЛУ**

Калі ў замежнай палітыцы толькі адзін вектар — лічыць яе сапраўднай цяжка



**5 «ПРАКАЛОЛІ КОЛЫ, ВЫТРУЦІЛІ ГАРОД...»**

Вольга Саўчына з Хацежына — чалавек з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй. І за гэта атрымлівае пагрозы



**6–7 «МНЕ НЕ ДА ТВАРУ ГРЫМ РУЖОВАЙ МАСКІ...»**

Да дня памяці Яўгеніі Янішчыц Саюз беларускіх пісьменнікаў адкрыў унікальныя дакументы з яе асабовай справы



**10 ПАЛІЦЭЙСКІЯ СУПРАЦЬ «БАЕВІКА» КПЗБ**

Сябры КПЗБ — гэта не наіўныя хлопцы, якія толькі раздавалі ўлёткі. Яны былі ўзброеныя і гатовыя страляць як у палітычных апанентаў, так і ў паліцэйскіх

# Дабрабыт правоў чалавека

## Што агульнага ў кілбасы і Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека?



Сяргей ПУЛЬША

У наступны панядзелак, 10 снежня, мы адзначым 70-ю гадавіну прыняцця глабальнага дакумента, які перавярнуў свет. У гэты дзень у 1948-м была прынятая Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

Зразумела, такое азначэнне, як «правы чалавека», выклікае шмат розных інтэрпрэтацый. Паводле Лукашэнкі, напрыклад, правы чалавека — гэта мір, стабільнасць, магчымасць пракарміць сям'ю, права на працу і нармальны заробак. Гэта ён казаў неаднаразова і не стамляўся паўтараць. «Будуць нармальна жыць людзі — будзе дэмакратыя», — сказаў ён падчас Мюнхенскай канферэнцыі 31 кастрычніка.

І, успрымаючы правы чалавека як бяспеку і матэрыяльны дабрабыт, ён пасоўвае ўбок палітычныя і грамадскія свабоды. Свабоду выбару, свабоду слова, свабоду сходаў і асацыяцый, свабоду яднання ў прафсаюзы... Увогуле, тое, пра што кажа Аляксандр Рыгоравіч, — сацыяльна-эканамічныя свабоды — ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека займаюць пяць артыкулаў. Пяць з трыццаці.

Але насамрэч, падобная інтэрпрэтацыя правоў чалавека не прыводзіць да дабрабыту людзей. Даказана гісторыяй, прычым — нядаўняй, і нашай.

Напачатку 1990-х, калі Беларусь атрымала незалежнасць, разгарнулася маштабная дыскусія паміж «рамантыкамі» і «прагматыкамі». Коратка яе змест можна выкласці адным пытаннем: «Што важнейшае: мова ці кілбаса?» Што найперш: дэмакратыя і каштоўнасці альбо запоўненыя таварамі прылаўкі і «магчымасць пракарміць сям'ю»? «Рамантыкі» з БНФ і Зянон Пазьняк сцвярджалі: найперш мова, дэмакратычныя каштоўнасці, а «кілбаса» (дабрабыт) з часам дададуцца. «Прагматыкі» ж казалі: спачатку накормім народ, дамо яму матэрыяльны грунт, а ўжо потым будзем развіваць дэмакратычныя інстытуты.

Перамаглі «прагматыкі», якія і прывялі да ўлады Лукашэнку. Але ў выніку мы чамусьці не атрымалі ні кілбасы, ні мовы. Маем, неканкурэнтную эканоміку ў стагнацыі і ніжэйшыя за ўсіх у рэгіёне заробкі (за выключэннем Украіны, але там вайна).

Чаму так атрымалася? «Прагматыкі», канешне ж, перамаглі. А мелі рацыю якраз «рамантыкі». Бо палітычныя і грамадскія правы чалавека — права абіраць і быць абраным, права на свабоду слова і сходаў, права выказваць сваё меркаванне і права на справядлівы і нейтральны суд — гэта фундамент дабрабыту матэрыяльнага. А не наадварот.

Палітычныя свабоды, права выбару, азначаюць абраны парламент, які будзе прымаць сапраўды карысныя і важныя законы, а не тое, што спусцяць яму «зверху». Такім чынам прымаюцца празрыстыя «правілы гульні» і ў эканамічным плане. Права выбару — гэта абіраемая выканаўчая ўлада, якая забяспечвае выкананне «правілаў гульні». Гэта незалежная судовая сістэма, якая назірае, каб усё было сумленна і па законе.

Калі выконваюцца палітычныя правы, тады ўзнікаюць эканамічныя правы і свабоды: абарона інвестыцый, захаванне права ўласнасці, свабода ад карупцыі, свабода працоўных адносінаў, празрыстая падатковая сістэма і сапраўдная роўнасць бізнесу перад законам. Не зважаючы на тое, вялікі гэта бізнес ці малы, мае ён доступ да вышэйшых эшалонаў улады ці не мае, у сталіцы ён працуе ці ў правінцыі — ён роўны.




А з развіцця эканамічных свабодаў і з'яўляецца тая самая «кілбаса»: працоўныя месцы, заробак, тавары і прадукцыя... Прычым, вызначальнае тут слова — «свабодаў», а не «эканамічных».

А свабода слова, свабода сходаў, свабода асацыяцый — гэта якраз зваротная сувязь паміж уладаю і грамадствам. Калі ўлада недзе «лапухнулася», грамадства праз свае інструменты падказвае: «Спадары, вы накасячылі». І ва ўлады ёсць магчымасць выправіць памылку. Не разганяць мітынгі з дапамогай дручкоў і слёзацечкі, а прыслухацца: нешта пайшло не так.

> **Палітычныя і грамадскія правы — фундамент дабрабыту матэрыяльнага. А не наадварот**

Безумоўна, некаторыя скажуць, што канцэпцыя спрэчная. Ёсць досвед Чылі, дзе за аўтарытарным рэжымам Піначэта краіна дасягнула неверагодных эканамічных паказчыкаў. Цяпер ёсць досвед Кітаю, які стаў сусветным эканамічным лідарам без усялякай дэмакратыі.

Аднак апалагеты Піначэта, калі аперуюць працэнтамі ВУП і інвестыцый, забываюць нагадваць, што інфляцыя ў часы таго Піначэта сягала да 500% на год, а сярэдні заробак быў роўны 15 доларам ЗША. Пра прымусовую працу ў Кітаі — калі, напрыклад, тавары сусветных брэндаў, кшталту Walmart, вырабляюць зняволеныя, — ходзяць легенды.

Ды што там далёка глядзець: у нашым Светлагорску Кітай пабудаваў завод беленай цэлюлозы з такім грэбаваннем экалагічнымі нормамі (а значыць — абыякавасцю да людзей), што яго дагэтуль напоўніцу запусціць не могуць.

У любым выпадку: на адзін эканамічны поспех аўтарытарызму прыходзіцца дзясятак правалаў. У той час, як краіны, якія выкарыстоўвалі дэмакратычныя інструменты, амаль заўсёды дасягалі і эканамічнага дабрабыту.

Давайце параўнаем свае заробкі (і цэны таксама) з краінамі, якія ў тых жа 1990-х гадах вырашылі, што для іх важнейшая дэмакратыя, а не кілбаса. Тая ж Польшча — заробкі ў тры разы вышэйшыя, а кошты — таннейшыя. Альбо Літва: чаму нашы суайчыннікі з «квітнеючай» Беларусі як трагедыю ўспрымаюць закрыццё на рэканструкцыю крамы «Maxima» ў віленскім «Акрополісе»?

Можа быць таму, што «будуць правы чалавека — будуць нармальна жыць людзі», а не наадварот?

# Супрацоўнікі міліцыі знішчылі бібліятэку актывіста

**Справа грамадскага актывіста Ігара Багачака цягнецца яшчэ з «гарачай вясны–2017». Напярэдадні Дня Волі 24 сакавіка 2017 года да актывіста дадому з аглядам прыйшла міліцыя. З сабой супрацоўнікі міліцыі знеслі 70 кніг, журналаў і брашур нібы ў межах артыкула 17.11 КаАП. На Ігара Багачака была заведзеная адміністрацыйная справа за захоўванне экстрэмісцкай літаратуры і прадукцыі.**

Літаратуру, у сваю чаргу, як і трэба ў такіх сітуацыях, супрацоўнікі міліцыі накіравалі на экспертызу. Але нешта пайшло не так. Экспертыза праводзілася больш за два месяцы, і была скончаная, калі ўжо прайшоў тэрмін прыцягнення актывіста да адміністрацыйнай адказнасці.

У сувязі з гэтым адміністрацыйную справу паводле артыкула 17.11 КаАП спынілі з-за заканчэння тэрміну для прыцягнення да адказнасці, але літаратуру Ігару Багачаку назад так і не аддалі.

Вядома, актывіст хацеў вярнуць сваю бібліятэку. Але супрацоўнікі міліцыі паведамілі яму, што экспертыза прызнала ўсю канфіскаваную літаратуру і прадукцыю экстрэмісцкай, і таму яна была знішчаная. Іх ніколькі не бянтэжыла адсутнасць рашэння суда па адміністрацыйнай справе ў дачыненні да хлопца, як у прынцыпе і адсутнасць самой справы. Вядома, што лёс такіх рэчаў можа вырашаць толькі рашэннем суда.

Зразумела, дзеянні супрацоўніка міліцыі С. Кулічэнкі абурылі хлопца, бо, як той кажа, «без суда і следства» знішчылі цэлую бібліятэку. З дапамогай юрыстаў праваабарончага цэнтру «Вясна» Ігар Багачык падрыхтаваў скаргу. Хоць яна першапачаткова адрасавалася ў пракуратуру Савецкага раёна, яе ўсё роўна пераслалі ў Савецкі РУУС. Вядома, што там не знайшлі парушэнняў з боку сваіх падначаленых, і начальнік Савецкага РУУС М. Гамола паведаміў, што ўсё было ў межах закона. Праўда, невядома якога. Актывіст хацеў давядацца гэта, і з дапамогай праваабаронцаў «Вясны» абскардзіў гэты адказ у ГУУС Мінгарвыканкама.

І нарэшце начальнік ГУУС Мінгарвыканкама А. Купчэня ўбачыў у сітуацыі нешта ненармальнае, ці, кажучы юрыдычнай моваю, незаконнае. І толькі 22 лістапада 2018 года Ігару Багачаку паведамілі, што за неналежнае выкананне службовых абавязкаў у дачыненні да ўчастковага інспектара міліцыі С. Кулічэнкі, у прыватнасці парушэнне нормаў адміністрацыйнага і працэсуальна-выканаўчага заканадаўства, «прынятыя меры рэагавання ў выглядзе пазбаўлення бягучай прэміі».

**Паводле spring96.org**

# «Я не ведаю, як дапамагчы сыну»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У асуджанага на 10 гадоў зняволення па «справе антыфашыстаў» Іллі Валавіка абвастрыліся праблемы са здароўем, але дамагчыся медычнага абследавання ён не можа.**

«Яшчэ калі ў нас было спатканне 29 кастрычніка, ён начамі не спаў, у яго быў упадак сіл. Звярнуўся да псіхолага, яму прызначылі курс лячэння, сядзеў на антыдэпрэсантах. А цяпер у яго развілася тахікардыя, сэрца грукае так, што ледзь не выскоквае. Кажа, баліць сэрца, скардзіцца на грудзінны боль. Яму прызначылі нейкія таблеткі, папіў, але паляпшэнняў няма. Зараз зноў збіраецца ісці да ўрача. Кажа, што спрабуе дабіцца прызначэння нейкіх прэпаратаў, а лекары ў турме разводзяць рукамі», — распавяла «Новаму Часу» маці вязня Раіса Валавік.

Яна называе сына праўдашукальнікам і кажа, што ва ўмовах, калі чалавека пасадзілі за тое, што ён нічога не зрабіў, з ім могуць здарыцца любыя зрывы.

«Яму яшчэ паўгода таму павінны былі даць заахвочванне за спартыўныя спаборніцтвы. Але яго заява знікла. Яму далі зразумець, што калі ён будзе выбіваць заахвочванні, то тут жа будуць парушэнні — там жа хутка гэта ўсё робяць», — кажа спадарыня Раіса.

Па яе словах, гэты ціск выцягвае з сына ўсе жыццёвыя сокі. Жанчына з адвакатам піша скаргі ў Вярхоўны суд.

«Разумееце, летась 3 кастрычніка ў яго памёр бацька. 55 гадоў, палкоўнік Генеральнага штаба. Ён памёр ад бяды, у яго спынілася сэрца, на якое ён ніколі не скардзіўся. Вядома, Іллю не пусцілі развітацца з бацькам. Дазволілі пазваніць. Ён крычаў у тэлефон: «Мамачка, што здарылася з татам?» — а я кажу: «Няма таты, сынок...» А чатыры месяцы таму памерла мая мама, бабуля Іллі, якая яго разумела. Для яго гэта вялікая страта», — дзеліцца жанчына.

Цяпер маці дамагаецца магчымасці прайсці медычнае абследаванне для сына, яе вельмі непакоіць яго пульс, больш за сто ўдараў, і сардэчны боль. Таксама яна змагаецца за тое, каб Іллю прызначылі УГД, бо ў яго камень у нырцы.

«Я папрасіла, каб яму зрабілі УГД, сказала, што мне патрэбны вынік, каб далей звяртацца да дактароў. А мне кажуць: "Мне патрэбна" — гэта не ў нашых умовах. Гэта турма». Я адказваю: «Вы разумееце, што можа аказацца позна?» — «Я праверу ў яго аналізы, і калі нешта знойдзецца, пастаўлю на чаргу на УГД». Я сказала, што ўсё атрую, але мне адказалі, што так не робіцца. Цяпер у яго гэты камень у стане рэмісіі, не дае ніякіх адхіленняў у аналізах. Але ж ён існуе. Ён проста можа разбурыць нырку. Сын прайшоў курс лячэння, і цяпер трэба зрабіць УГД, каб паглядзець, што гэта дало. Але гэтага дабіцца немагчыма.

Я не ведаю, як дапамагчы сыну. Ён у мяне адзіны застаўся. Сям'я разбурана, — са слязьмі ў голасе кажа Раіса Ігараўна. — Калі я званю, і Глорушка (дачка Іллі Валавіка. — НЧ.) кажа «тата», а я кажу, што гэта не тата, а бабуля Рая, яна плача і кажа: «Я па тату сумую». Ён перажывае, што дзіця расце без яго».

Ужо 2,5 гады, як Ілля Валавік знаходзіцца ў зняволенні. Падставай для крымінальнай справы стаў канфлікт, які адбыўся ў чэрвені 2014 года. Паводле праваахоўнікаў, фанаты футбольнага клубу «Партызан» (якія звычайна прытрымліваюцца антыфашысцкіх поглядаў) на машынах блакавалі рух тралейбуса, у якім ехалі іх праціўнікі — фанаты мінскага «Тарпеда» (некаторыя з якіх вядомыя неанацысцкімі поглядамі). Пасля гэтага ініцыятары канфлікту забеглі ў тралейбус, выбілі ў ім шкло, пашкодзілі салон, распылілі слезацечны газ і напалі на «тарпедаўцаў». Была распачатая крымінальная справа па арт. 339 КК «Хуліганства».

На судзе большасць пацярпелых адмовіліся ад усялякіх прэтэнзій да абвінавачаных. Фігуранты справы заяўлялі пра ціск падчас следства.

Шэраг грамадскіх актывістаў лічаць Іллю Валавіка палітвязнем, бо жорсткі прысуд у яго адносінах абумоўлены яго палітычнымі поглядамі. Між тым, праваабаронцы афіцыйна не прызналі Валавіка палітвязнем.

Па словах маці, вязень вельмі ўдзячны за лісты, якія да яго прыходзяць. Напісаць Іллю Валавіку можна на адрас: 212013, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, ПК-15, атр.11. Валавік Ілля Ігаравіч.

Сябры Іллі стварылі ў яго падтрымку сайт valavik.com

# «Белая пляма» ў цэнтры Еўропы

Яўген ФЁДАРАЎ

**Сусветны сэрвіс Priceonomics запісаў Беларусь у спіс самых нялюбых краін свету сярод турыстаў. Свежы рэйтынг, які эксперты склалі на базе дадзеных Сусветнага банка, ацэньвае краіны па колькасці прынятых імі замежных турыстаў адносна агульнай колькасці іх жыхароў.**

Беларусь традыцыйна апынулася ў групе краін-няўдачнікаў на 12-м месцы — займае пазіцыю паміж Суданам і Буркіна-Фасо. Паводле падлікаў аналітыкаў, на аднаго замежнага наведвальніка ў нашай краіне прыпадае 68 мясцовых жыхароў, што сведчыць пра невысокую прывабнасць сярод турыстаў.

Акрамя Беларусі, з краін постсавецкай прасторы ў першую дваццатку антырэйтынгу трапілі толькі Малдова і Таджыкістан, якія апынуліся на 3 і 19 месцах адпаведна.

Цікава, што такія нярадасныя вынікі беларускі ўязны турызм дэманструе на фоне актыўнай лібералізацыі візавага рэжыму ў краіне, які летам 2018 года прадоўжылі да 30 дзён. І нельга сказаць, што намаганні чыноўнікаў не прыносяць выніку — па статыстыцы, за мінулы год у краіну прыехалі больш за 282 тысячы замежных турыстаў, што на 65 тысяч больш, чым годам раней.

Праблема, хутчэй, у іншым: Беларусь так доўга была своеасаблівай «белай плямай» у цэнтры Еўропы, што цяпер хутка прыцягнуць у краіну патокі замежных турыстаў амаль немагчыма. Для параўнання, у суседзяў-літоўцаў адну толькі Вільню штогод наведваюць 429 тысяч іншаземцаў, а ў маштабах усёй краіны гаворка ідзе пра істотную лічбу ў 2–3 мільёны замежных наведвальнікаў.

Цалкам магчыма, калі б не шматгадовая зашоранасць беларускіх чыноўнікаў, якія на працягу двух дзесяцігоддзяў адмаўляліся ўвесці бязвізавы рэжым для замежнікаў, сітуацыя з турыстамі ў Беларусі была б не горшай, чым у суседзяў.

На жаль, беларусам за гады турыстычнага «застою» давядзецца расплачвацца яшчэ шмат гадоў. У тым ліку і сваім гаманцом.

**Gazetaby.com, пераклад НЧ**

# «Прысуд Золатавай зробіць Беларусь краінай-ізгоем»

**Стваральнік партала TUT.BY выказаўся пра сітуацыю з Марынай Золатавай, якая застаецца адзінай абвінавачанай па «справе БЕЛТА», піша «Еўрарадыё».**

Нядаўна Марыне Золатавай адмовілі ў хадайніцтве аб спыненні крымінальнай справы. Стваральнік партала Юрый Зісер на сваёй старонцы ў Facebook наступным чынам пракаментаваў гэтую сітуацыю:

«Вырашылі яшчэ месяц памучыць Марыну ў невядомасці. Таму што дапускаць да суду дзяржаве ніяк нельга: доказная база па яе крымінальнай справе настолькі слабая, што ў любым судзе рассыплецца, нават у нашым. Але апраўдаць Марыну наша судовая сістэма не наважыцца, а іншы прысуд верне Рэспубліку Беларусь у 2000-я, у сітуацыю краіны-ізгоя, нанясе ўсёй краіне сур'ёзныя палітычныя і эканамічныя страты».

Марыну Золатаву абвінавачваюць у бяздзейнасці службовай асобы. Ёй пагражае як мінімум штраф, а як максімум — да 5 гадоў пазбаўлення волі. Іншых фігурантаў справы вінавацілі ў несанкцыянаваным доступе да кампутарнай інфармацыі, аднак супраць іх справы спынілі. Золатава мае месяц на азнаямленне з матэрыяламі, пасля чаго зноў зможа звярнуцца з хадайніцтвам у пракуратуру.

# Антыпрэмія для чыноўнікаў

**Міжнародны фэст дакументальнага кіно Watch Docs Belarus і тэлеканал «Горад для гараджан» ствараюць антыпрэмію для чыноўнікаў. Яна будзе называцца «WATCH DOCS пазначыў».**

«Мы хочам абараняць правы чалавека не толькі з дапамогай паказу фільмаў і абмеркаванняў, але і дзеяннем, адзначаючы (пазначаючы) медалём «за выдатныя заслугі ў галіне правоў чалавека» асобныя органы, структуры, ініцыятывы або іх прадстаўнікоў», — гавораць арганізатары.

Грамадзянам прапануецца падаць заяўку, у якой будуць пазначаныя наступныя пазіцыі:

1. Дзяржаўны орган, ведамства або прадпрыемства;
2. Канкрэтны факт парушэння правоў;
3. Апісанне «заслугі» намінанта і спасылка на публікацыю ў СМІ пра дзеянне / бяздзейнасць, каб можна было праверыць гэты факт.

Арганізатары плануюць не закляйміць ганьбай чыноўнікаў, а тонка высмеяць іх. Прадстаўнікоў ведамстваў, адзначаных антыпрэміяй, запросяць на ўручэнне медаля падчас закрыцця фестывалю (16 снежня ў 15:00, кінатэатр «Мір»).

**euroradio.fm**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Развод на грошы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Грошы скончыліся, і, магчыма, канчаткова. Дзяржава ліхаманкава шукае, дзе іх знайсці. Яна залазіць у кішэні грамадзянаў — і бачыць там пустэчу. Яна спрабуе выцягнуць грошы з замежных партнёраў — і пакуль не атрымліваецца.**



Фота www.politonline.ru

Палова з навінаў тыдня тычыцца новай базы «дармаедаў». Ва ўсіх каментарах і навінах пераціраецца, хто і як туды трапляе, як гэтага пазбавіцца і гэтак далей. Пакуль мы асэнсоўваем новую «антыдармаедскую» практыку. Рэфлексіяў багата.

Па-першае, вельмі ўразілі словы міністра сацыяльнай абароны Ірыны Касцевіч. Яна паведамілі, што ў новую базу трапілі каля паўмільёна чалавек. І гэтым спадарыня Касцевіч падпісала прысуд беларускай эканамічнай мадэлі.

Згодна Белстату, колькасць эканамічна актыўнага насельніцтва на кастрычнік 2018 года склала 4 мільёны 356 тысяч 400 чалавек. Калі вылічыць з гэтай лічбы 500 тысяч «дармаедаў», атрымаецца 3 мільёны 856 тысяч 400 чалавек. Выкінем яшчэ 14600 афіцыйна беспрацоўных. Атрымаем 3 мільёны 841 тысяч 800 чалавек.

Колькасць насельніцтва Беларусі, па тым жа Белстаце, на пачатак 2018 года склала 9,492 мільёна чалавек. Такім чынам, колькасць «эканамічна неактыўнага» насельніцтва краіны — дзяцей, пенсіянераў, інвалідаў, іншых катэгорый насельніцтва, якіх дзяржава ўтрымлівае за кошт падаткаў працоўных, складае 5 мільёнаў 650 тысяч 200 чалавек. Іх — на 1 мільён 800 тысяч больш, чым грамадзян, якія могуць працаваць!

Калі з «эканамічна актыўнага насельніцтва» мы выключым бюджэтнікаў, чыноўнікаў, міліцыю і гэтак далей — атрымаецца, што адзін працоўны забяспечвае двух «эканамічна неактыўных». І мы можам наўпрост казаць пра такі дэмаграфічны крызіс, які не выправіш нават падвышэннем пенсійнага ўзросту. Вось вам і «сацыяльна арыентаваная дзяржава для жыцця».

Па-другое, у мінулым годзе «база дармаедаў» налічвала каля 470 тысяч чалавек. Зараз яна павялічылася да 500 тысяч. Між тым, Аляксандр Лукашэнка неаднаразова патрабаваў «працаўладкаваць палюбоўнікаў і палюбоўніц», «да 1 мая (2017 года, дарэчы), каб не засталося ніводнага беспрацоўнага», і галоўнае — «ствараць 50 тысяч новых працоўных месцаў на год» (сказана ў 2016-м). Тры гады (ад 2016-га да 2018-га ўключна), патэнцыйна 150 тысяч працоўных месцаў — а толькі за год колькасць «дармаедаў» вырасла на 30 тысяч чалавек.

Сапраўдны «беларускі эканамічны цуд»!

Але журналісты — дзівакі. Па выразе знакамітага амерыканскага баксёра Соні Лістана, газетчыкі глядзяць на сонца, і пытаюцца, ці свеціць яно. І некаторыя прыкінуліся дурнямі і пачалі высвятляць, ці ёсць яны ў «базе дармаедаў».

У карэспандэнта Naviny.by адбыўся вельмі цікавы дыялог з чыноўнікам Мінскай гарадской камісіі па садзейнічанні занятасці насельніцтва. Менавіта гэтыя камісіі — раённыя, гарадскія, немаведама якія — «садзейнічаюць занятасці насельніцтва» тым, што ўлічваюць «дармаедаў». Гэты чыноўнік найперш запытаў журналіста: «У вас ёсць ва ўласнасці жыллё?» Атрымаўшы адмоўны адказ, чыноўнік сказаў: калі вы не маеце ва ўласнасці жылля, у базу дадзеных дармаедаў вы не патрапіце. Бо, згодна з «дармаедскім дэкрэтам», дармаеды павінны сплачваць поўны кошт паслуг ЖКГ. А калі вы нават і «дармаед», але ў вас няма кватэры ці хаты, якія на вас аформленыя, — свабодны! Вас у базе дадзеных не будзе.

Як гэта расцаніць? Як тое, што «сацыяльная дзяржава» шляхам «дармаедскага дэкрэту» ўлічвае непрацуючых элементаў і садзейнічае іх занятасці, пра што нам усе вушы прагудзеў Аляксандр Лукашэнка? Альбо як тое, што дзяржава вылічвае ўласнікаў нерухомасці, якія афіцыйна не працуюць, і плануе падвысіць ім кошт ацяплення, гарачай вады і іншых дабротаў у 5–6 разоў? То бок, развесці людзей на грошы?

Тыя ж дапытлівыя журналісты ўзгадалі і яшчэ адзін факт. Лукашэнка некалькі разоў казаў, каб камунальнікі паклалі яму на стол разлікі па аплаце сваіх паслуг. І ніводнага разу не праходзіла навіна, што яны гэта зрабілі. А таму яшчэ адно пытанне — наколькі апраўданае павышэнне аплаты ЖКГ для «дармаедаў» у 5–6 разоў, асабліва ў рэчышчы абяцанняў, што ў 2019 годзе ЎСЕ беларусы будуць аплачваць 100% паслуг ЖКГ?

Са 100% аплатай паслуг ЖКГ мы, напэўна, яшчэ адстаём. Прынамсі, указ Лукашэнкі пра ўстанаўленне тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва на 2018 год (ад 5 студзеня 2018 года) канстатаваў, што «гэтыя тарыфы дазволяць у 2018 годзе забяспечыць узровень кампенсацыі насельніцтвам затрат па ўсім комплексе жыллёва-камунальных паслуг у памеры больш за 70%. Па большасці паслуг (тэхнічнае абслугоўванне жылых памяшканняў, ліфтаў, водазабеспячэнне, водаадвядзенне, збор, вываз і абясшкоджванне камунальных выкідаў) з улікам работы па зніжэнні іх сабекошту плануецца выйсці на стопрацэнтнае пакрыццё».

Такім чынам, згодна Лукашэнку, у гэтым годзе мы ў асноўным пакрываем 70% паслуг ЖКГ. Наступным годам так званыя «дармаеды», з улікам росту кошту ЖКГ для іх у 5–6 разоў, заплацяць 350% ад кошту паслуг? 70% памножыць на па мінімуме 5 — 350%? Хтосьці ў «сацыяльных» міністэрствах за такую ідэю атрымае неблагі «адкат», я ўпэўнены.

Асэнсаваўшы лічбу ў 350% прыбытку, я не магу не ўзгадаць Карла Маркса: «Забяспечце капіталу 10% прыбытку, і капітал згодны на любое ўжыванне, пры 20% ён становіцца ажыўленым, пры 50% гатовы зламаць сабе галаву, пры 100% ён топча ўсе чалавечыя законы, пры 300% — няма такога злачынства, на якое ён не рызыкнуў бы пайсці, хоць бы і пад страхам шыбеніцы».

І не магу не задацца пытаннем: а у нас рэальна «сацыяльная дзяржава»?

Ну і гэта яшчэ не ўсё. Беларусь падлічыла страты ад «падатковага манеўру» Расіі. Праз месяц Расійская Федэрацыя скасоўвае мытныя пошліны на нафту (якія часткова ішлі ў беларускі бюджэт) і замяняе іх унутраным падаткам на здабычу карысных выкапняў. Які ў беларускі бюджэт, зразумела, паступаць не будзе. На ўнутраным расійскім рынку кошт нафты падымецца да сусветнага, і для Беларусі — таксама. У выніку, як паведаміў намеснік міністра фінансаў Андрэй Белкавец, Беларусь страціць 10 мільярдаў долараў. З гэтай нагоды афіцыйны Мінск нават пачаў шантаж выхадам з ЕАЭС, — калі Масква не скампенсуе «страты».

Механізм кампенсацыі зараз абмяркоўваецца. Але проста цікава — чым Пуцін адкажа на такі не абы-які шантаж? На месцы Белкаўца я быў бы асцярожным: у Расіі ёсць Пятроў, Башыраў і «Навічок». За 10 мільярдаў долараў — і не тое бывае.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Ганна Канапацкая

**Дэпутатка Палаты прадстаўнікоў патрапіла пад прэсінг выбаршчыцы.**

Жыхарка Мінска напісала скаргу на апазіцыйную дэпутатку Палаты прадстаўнікоў Ганну Канапацкую. У дакуменце яна запатрабавала размясціць у працоўным кабінеце дэпутаткі партрэт Лукашэнкі.

«Жанчына не з маёй акругі не паленавалася прыехаць у сакратарыят і напісаць такую скаргу», — распавяла Канопацкая.

У скарзе грамадзянка просіць «абавязаць дэпутата Канапацкую размясціць на сцяне рабочага кабінета партрэт прэзідэнта». Нагодай для звароту, па яе словах, стала інтэрв'ю дэпутата выданню «Наша ніва».

Тым не менш, ніякіх інструкцый адносна таго, як павінен выглядаць кабінет дэпутата Палаты прадстаўнікоў, няма. Сама Канапацкая, юрыст па прафесіі, кажа, што, у адпаведнасці з законам аб статусе дэпутата, кабінет і жыллё дэпутата недатыкальныя. Абавязаць яе павесіць любы партрэт дзе б там ні было ніхто не можа.

## Сяргей Скрабец

**Экс-бізнесовец, былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў, былы палітвязень Сяргей Скрабец будзе вылучацца на пасаду кіраўніка дзяржавы.**



Гэта першая персанальна агучаная альтэрнатыўная кандыдатура на пасаду кіраўніка дзяржавы. Больш за тое, Скрабец абяцае тым, хто падчас прэзідэнцкіх выбараў будзе працаваць у яго ініцыятыўнай групе, 100 долараў за подпіс. Але — «пасля перамогі».

«Наш штаб пачынае збіраць дадзеныя для запісу ў ініцыятыўную групу па вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты Сяргея Скрабца, — анансаваў пачатак сваёй выбарчай кампаніі Скрабец у Фэйсбуку. — Трэба сабраць 100 тысяч подпісаў. За кожны подпіс штаб плаціць 200 рублёў (грошы пасля перамогі на выбарах). І, такім чынам, мы праводзім першы этап — рэгістрацыю. А далей усё пойдзе як па масле! Чакаю вашых дадзеных. Прозвішча, імя нумар пашпарта і адрас».

Скрабец адзначае, што за два месяцы (і нават за паўгода) 100 тысяч подпісаў, неабходных для вылучэння кандыдата ў прэзідэнты, сумленна сабраць немагчыма. Таму ён хоча падрыхтаваць і максімальна зацікавіць людзей, каб яны паставілі не толькі свой подпіс, але і пагаварылі са сваім суседам, сябрам, жонкай.

Што тычыцца шалёных грошай, якія Скрабец абавязаўся плаціць, то прэтэндэнт на прэзідэнта кажа, на прэзідэнцкія кампаніі выдаткоўваецца і больш. А наконт разліку пасля перамогі: «Канфіскую асабнякі ў тых, хто ў Драздах пабудаваўся. У іх усё незаконнае».

«Я планую сабраць тысяч пяць чалавек у ініцыятыўную групу, вельмі разлічваю на дапамогу ў тым ліку і пенсіянераў. І калі пачнецца кампанія — пойдзе праца. Галоўнае — добра і загадзя да яе падрыхтавацца», — кажа Скрабец.



## Ігар Стасевіч

**Капітан БАТЭ на цырымоніі закрыцця футбольнага сезона «Зорны мяч–2018» быў названы лепшым беларускім футбалістам 2018 года.**

Атрымаўшы прыз, Ігар Стасевіч падзякаваў людзям, якія зрабілі вялікі ўплыў на яго футбольную кар'еру. Сярод іх найважнейшыя ролі адыгралі шматгадовы кіраўнік БАТЭ Анатоль Капскі і былы настаўнік мінскага «Дынама» Уладзімір Журавель, якія пайшлі з жыцця мінулай восенню, піша TUT.BY.

Вынікі галасавання сярод вядомых спецыялістаў і журналістаў традыцыйна праводзіў «Прессбол». У галасаванні прыняў удзел 441 чалавек.

Ігар Стасевіч набраў 795 балаў. За ім ішлі Станіслаў Драгун (БАТЭ) — 768 балаў, Аляксандр Мартыновіч («Краснадар») — 412 балаў, Павел Савіцкі («Дынама-Брэст») — 164 балы.

Варта азначыць, што Стасевіч ужо быў станавіўся лепшым гульцом краіны ў 2015 годзе.

Лепшым беларускім трэнерам названы Віктар Ганчарэнка, які ўзначальвае ЦСКА. Ён названы лепшым трэнерам трэці раз запар і восьмы раз з 2008 года.



# Балансаванне на мяжы фолу

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

**Уласна замежная палітыка і, адпаведна, дыпламатыя з'явілася ў Беларусі не так даўно, можа з дзясятак гадоў таму. Бо да сярэдзіны 2000-х знешнія стасункі зводзіліся ў асноўным да інтэграцыі з Расіяй. Калі ў замежнай палітыцы толькі адзін вектар — лічыць яе сапраўднай цяжка. Сам Лукашэнка, ацэньваючы той перыяд, сказаў, што доўгі час «мы ляцелі на адным крыле».**

Мяжой для пераацэнкі падыходаў афіцыйнага Мінска да замежнай палітыкі ў цэлым, і да Захаду ў прыватнасці, стаў крызіс у стасунках з Расіяй. Адразу ж пасля беларуска-расійскай нафтагазавай вайны на мяжы 2006–2007 гадоў Беларусь прапанавала ЕС дыялог. Рэальна нармалізацыя адносін Беларусі і Еўрасаюза пачалася ў 2008 годзе пасля расійска-грузінскай вайны. Афіцыйны Мінск разлічваў набыць новую кропку апоры. Гэта давала магчымасць гуляць на супярэчнасцях, балансаваць паміж Расіяй і Еўропай, атрымаць эканамічныя і палітычныя дывідэнды з абодвух бакоў. Беларускае кіраўніцтва было зацікаўленае ў заходніх інвестыцыях, крэдытах. За гэта давялося заплаціць вызваленнем палітзняволеных.

Першую спробу нармалізацыі адносінаў з Захадам у 2008–2010 гадах можна лічыць адносна паспяховай. Тады Мінск атрымаў крэдыт МВФ. Аднак пасля падзей 19 снежня 2010 года стасункі Беларусі з Захадам зноў абвастрыліся.

Новы этап дачыненняў афіцыйнага Мінска з ЗША і ЕС пачаўся ў 2014 годзе. І рубіконам сталі падзеі ва Украіне — захоп Крыма, вайна на Данбасе. Беларусь стала цэнтрам урэгулявання ўкраінскага крызісу.

Мінск скарыстаўся момантам і гэтым новым міжнародным іміджам, каб размарозіць адносіны з Захадам. Гэта атрымалася з цэлага шэрагу прычын.

Па-першае, падчас вострага геапалітычнага супрацьстаяння, міжнароднага крызісу, абвастрэння адносін паміж Захадам і Расіяй на першы план у міжнароднай палітыцы выходзяць пытанні геапалітыкі, а пытанні каштоўнасцяў (правоў чалавека, дэмакратыі) адсоўваюцца ўбок. Якраз па найважнейшым геапалітычным пытанні сённяшняга дня — стаўленні да расійска-ўкраінскага канфлікту — Беларусь спрабуе захоўваць нейтралітэт. Што апынулася некалькі нечаканым для Захаду, улічваючы тое, што Беларусь — найбліжэйшы саюзнік Расіі. ЕС і ЗША гэта ацанілі.

Па-другое, змена адносін Захаду да Беларусі адбылася з выключна практычных меркаванняў. З-за расійска-ўкраінскага канфлікту ўзнікае пагроза транзіту газу ў краіны ЕС праз тэрыторыю Украіны. І на гэтым фоне беларуская стабільнасць падвышаецца ў цане для еўрапейцаў, і нават амерыканцаў. Памочнік дзяржсакратара ЗША па справах Еўропы і Еўразіі Уэс Мітчэл падчас сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам 31 кастрычніка адзначыў, што Злучаныя Штаты высока цэняць «палітычную стабільнасць» у Беларусі.

Па-трэцяе, Лукашэнка на фоне Пуціна стаў ужо не самым «дрэнным хлопцам». Усё пазнаецца ў параўнанні. Да таго ж імкненне Захаду дамагчыся дэмакратычных зменаў у Беларусі праз жорсткі ціск і ізаляцыю не дало выніку. На фоне стомленасці ад бясплённых спробаў дэмакратызаваць Беларусь у краінах ЕС атрымалі верх сілы, якія выступаюць за пераадоленне ізаляцыі нашай краіны, нармалізацыю адносін з ёй.

Па-чацвёртае, беларускае кіраўніцтва зрабіла некаторыя канкрэтныя крокі па шляху лібералізацыі: вызваленне палітычных зняволеных, першыя прыкметы эканамічных рэформаў, больш паблажлівае стаўленне ўладаў да ўдзелу апазіцыі ў выбарчай кампаніі, допуск двух дэмакратычных дэпутатаў у Палату прадстаўнікоў. У выніку праблема дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі перастала быць перашкодай для дыялогу. Еўрапейскія палітыкі разлічвалі заахвоціць Лукашэнку павольна, крок за крокам, рухацца па шляху лібералізацыі і збліжэння з Захадам. У гэтую канцэпцыю добра ўпісалася праграма ЕС «Усходняе партнёрства», у якую была ўключана Беларусь.

Такім чынам, пачынаючы з 2014 года Беларусь актыўна праводзіць палітыку балансавання, лавіравання паміж Расіяй і Захадам. У сваім травеньскім выступе на форуме «Мінскі дыялог» Лукашэнка казаў: «Мы не з Расіяй супраць Еўропы і не з Еўропай супраць Расіі. Для нас у прынцыпе непрымальнае пытанне, з кім мы».

**Амплітуда ваганняў ківача паміж сусветнымі цэнтрамі сілы павялічыцца, а заявы Лукашэнкі становяцца ўсё больш супярэчлівымі — у залежнасці ад аўдыторыі**

Улады пачалі фармаваць вобраз краіны-міратворцы, донара бяспекі, беларуская сталіца прэтэндавала на ролю новай Жэневы, Хельсінкі–2. Беларусь вярнулася ў еўрапейскі палітычны парадак дня. Тут сталі рэгулярна праводзіцца міжнародныя форумы.

Апошнімі месяцамі гэтая палітыка балансавання набыла новыя рысы. Пасля прэзідэнцкіх выбараў у Расіі ўвага да Беларусі ў Маскве ўзрасла. Пра гэта сведчыць і прызначэнне пасла Расіі Міхаіла Бабіча з вялікім статусам і паўнамоцтвамі, і той факт, што з 19 чэрвеня па 12 кастрычніка Лукашэнка і Пуцін вялі перамовы сам-насам чатыры разы. Цяжка ўзгадаць аналагічны перыяд у двухбаковых адносінах з такой інтэнсіўнасцю сустрэчаў.

Але гэты ўхіл у бок Расіі афіцыйны Мінск хутка выправіў. Першым рухам знешнепалітычнага ківача ў процілеглым напрамку стаў нядаўні Форум рэгіёнаў Беларусі і Украіны ў Гомелі, перамовы Аляксандра Лукашэнкі з украінскім прэзідэнтам Пятром Парашэнкам. Наступным крокам у гэты бок стала правядзенне ў Мінску Асноўнай групы Мюнхенскай канферэнцыі па бяспецы і выступ на ёй кіраўніка Беларусі.

Таксама Лукашэнка сустрэўся з памочнікам дзяржсакратара ЗША па справах Еўропы і Еўразіі Уэсам Мітчэлам. Упершыню за 16 гадоў амерыканскі чыноўнік такога ўзроўню наведаў Мінск. Гэта значыць, што нарэшце Беларусь з'явілася на радарах знешняй палітыкі ЗША. «Асабіста я вельмі разлічваю, што гэта будзе сапраўды гістарычны візіт, з якога пачнецца, хай паступовы і павольны, выхад з таго стану, у якім знаходзяцца беларуска-амерыканскія адносіны», — сказаў Лукашэнка.

Калі казаць пра сухую рэшту, то ЕС плануе ў бліжэйшыя тры гады выдаткаваць 112–136 мільёнаў еўра ў выглядзе тэхнічных грантаў для Беларусі. Таксама да 2020 года Беларусь будзе мець доступ да фонду памерам у 283 мільёнаў еўра ў рамках праектаў транспамежнага супрацоўніцтва «Польшча—Беларусь—Украіна» і «Латвія—Літва—Беларусь».

Актыўна супрацоўнічаюць з Беларуссю еўрапейскія фінансавыя інстытуты. Еўрапейскі інвестыцыйны банк пачаў фінансаваць некалькі інфраструктурных праектаў. Ён прадстаўляе 84 мільёны еўра «Мінскводаканалу» для фінансавання рэканструкцыі і мадэрнізацыі цэнтральнай ачышчальнай станцыі сталіцы. Банк фінансуе мадэрнізацыю міжнародных транспартных калідораў. Да прыкладу, ён, сумесна з Сусветным банкам, фінансава дапамагае мадэрнізацыі хуткаснай трасы з Мінска да літоўскай мяжы. Таксама каля 200 малых і сярэдніх прадпрыемстваў скарыстаюцца рэсурсамі двух крэдытаў, прадстаўленых Еўрапейскім інвестыцыйным банкам «Белаграпрамбанку» (50 мільёнаў еўра) і «Беларусбанку» (25 мільёнаў еўра).

Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця ў 2016 годзе атрымаў мандат на працу з беларускім дзяржсектарам, прыняў новую краінавую стратэгію, падпісаў рамачнае пагадненне з Беларуссю.

Цяпер на стале ў Лукашэнкі ляжаць запрашэнні наведаць тры еўрапейскія сталіцы: Рыгу, Вену і Мюнхен. Было яшчэ запрашэнне ў Парыж на ўрачыстасці з нагоды 100-годдзя заканчэння Першай сусветнай вайны, але кіраўнік Беларусі яго праігнараваў.

Такім чынам, амплітуда ваганняў ківача ў адносінах паміж сусветнымі цэнтрамі сілы ў дзеяннях і жэстах афіцыйнага Мінска павялічыцца, а заявы Лукашэнкі становяцца ўсё больш супярэчлівымі — у залежнасці ад аўдыторыі.

Напрыклад, падчас саміту СНД 28 верасня Лукашэнка казаў пра «небяспекі і выклікі, якія ўтойваюць у сабе дзеянні заходніх дзяржаў і NATO каля нашых межаў, ля межаў Саюзнай дзяржавы».

А 6 лістапада, падчас сустрэчы з прадстаўнікамі аналітычных цэнтраў ЗША, беларускі кіраўнік заявіў пра зацікаўленасць Беларусі не толькі ў моцнай і адзінай Еўропе, але і ў моцным трансатлантычным партнёрстве. «Гэта асноўная апора нашай планеты, і не дай Бог яе разбурыць. Мы ўпэўненыя, што ад згуртаванасці краін у рэгіёне і захавання ваенна-палітычнай ролі ЗША ў еўрапейскіх справах залежыць бяспека ўсяго кантынента», — сказаў Лукашэнка.

Перакладаючы на зразумелую мову, гэта азначае, што Мінск зацікаўлены ў моцным NATO на чале з ЗША. Такім чынам, Паўночнаатлантычны альянс — гэта ўжо не «страшны монстр», як называў яго Лукашэнка раней, а «асноўная апора нашай планеты». Дзіўныя справы твае, Гасподзь.

Далей яшчэ цікавей. 4 лістапада на сустрэчы з жыхарамі пасёлка Балбасава Аршанскага раёна Лукашэнка адзначыў, што казаў міністру замежных спраў Польшчы: «Не трэба ствараць лішнія базы. У адваротным выпадку мы з расіянам павінны будзем адказваць. Значыць, мы будзем вымушаныя нешта размяшчаць, каб вам процідзейнічаць». Ніяк па-іншаму трактаваць гэтую фразу нельга, як згоду на з'яўленне ў Беларусі расійскай ваеннай базы ў адказ на амерыканскую базу ў Польшчы. Менавіта так зразумелі яе расійскія СМІ.

Аднак праз два дні Лукашэнка ў гутарцы з амерыканскімі экспертамі з непараўнальнай непасрэднасцю катэгарычна абверг магчымасць размяшчэння на тэрыторыі Беларусі расійскай базы. «Яна тут не патрэбная... Мы катэгарычна супраць размяшчэння, тым больш базы ваенна-паветраных сіл», — кажа ён.




Вось такое знешнепалітычнае лавіраванне. Гэта можна назваць як тонкай дыпламатычнай мімікрыяй, так і праставатай сялянскай хітрасцю. Ківач знешнепалітычнага балансавання бесперапынна рухаецца. І не вядома, дзе і калі ён спыніцца. Гэты зварот адначасова да Масквы, Брусэля і Вашынгтона з прапановай: рабіце свае стаўкі, спадары!

# «Пракалолі колы, вытруцілі гарод...»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Вольга Саўчына — чалавек з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй. З яе ініцыятывы ў аграгарадку прабурылі артэзіянскую свідравіну, правялі газ, яна дамаглася бясплатнага школьнага аўтобуса для падвозу дзяцей, пандуса для дзіцяці з інваліднасцю. Цяпер змагаецца за рамонт дамоў, якія здалі ў эксплуатацыю некалькі гадоў таму, але іх стан ужо нельга назваць здавальняючым. І за гэта атрымлівае пагрозы.**



Вольга Саўчына

## Новы дом ужо разбураецца

«У 2007 годзе ў мяне было двое маленькіх дзяцей, я жыла з мамай і заўжды марыла з'ехаць з Мінска. На той момант выйшаў указ кіраўніка дзяржавы аб ільготным крэдытаванні будаўніцтва жылля для маладых сем'яў, якія ўпершыню ўзялі шлюб. Заставалася выбраць населены пункт. У Хацежына ў мяне жыла бабуля, і мы паехалі туды», — распавядае шматдзетная мама і юрыст паводле адукацыі Вольга Саўчына.

Сям'я стала на ўлік тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, і чакала, калі дабудуюць іх новы 94-кватэрны дом па вуліцы Савецкай, 2А. Вольга прызнаецца, што была занятая дзецьмі і асабліва ў пытанні будаўніцтва не ўнікала, хіба пры патрэбе прадстаўляла ўсе даведкі. Тагачасную старшыню жыллёва-будаўнічага выторчага кааператыву (ЖБВК) Тацццяну Каваленка ніхто на гэтую пасаду не выбіраў — яна сама прыйшла. Паралельна ў 2009 годзе гэты ж ЖБВК арганізаваў будаўніцтва яшчэ аднаго такога ж дома для людзей, якія мелі патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, па вуліцы Міра, 17А.

Але калі ў 2010 годзе сям'я Саўчыных пераехала ў новае жытло, узніклі пытанні.

«Вокны цяклі, вільготнасць была 90 працэнтаў, у ложку немагчыма было спаць, прамярзалі сцены», — распавядае жанчына.

Толькі ў сваёй кватэры яна налічыла 15 дэфектаў, дапушчаных пры будаўніцтве. Старшыня кааператыву адхрысцілася ад усіх парушэнняў, але за 1,5 года зваротаў у розныя інстанцыі Вользе ўдалося дамагчыся ад будаўнічага трэсту выпраўлення некаторых хібаў.

У 2013 годзе скончылася гарантыя на дом, а зімой 2014-га праз тое, што з даху не знялі снег, былі пашкоджаныя адлівы. Некалькі гадоў жыхары звярталіся да старшыні ЖБВК, але ніякага рамонту так і не зрабілі. У выніку фасад новага яшчэ дома пакрыўся цвіллю і стаў разбурацца, адмостка парасла травой (бо вада з вадасцёкавых труб ліецца наўпрост на яе), стала разбурацца гідраізаляцыя. Пры гэтым дамагчыся ад старшыні кааператыву сходу жыхары так і не змаглі.

## Помста за галоснасць

У выніку ў 2016 годзе Вольга звярнулася ў пракуратуру і падключыла да справы журналістаў.

«Пасля таго, як прыехалі журналісты і паказалі, што дом даведзены да капрамонту, у маёй машыне пракалолі колы. Мы жывем у вёсцы, і гэта было зроблена для таго, каб людзі ўбачылі і не выказвалі сваю пазіцыю», — перакананы Вольга Саўчына.

Але пасля праверкі пракуратурай парушэнняў старшыня кааператыву Таццяна Каваленка мусіла пакінуць сваю пасаду. На яе месца прыйшла жыхарка таго самага дома па Савецкай, 2А Людміла Змушко. Яна адкрыла доступ да дакументаў — і аказалася, што яе папярэдніца выплачвала сабе прэміі па 5 000 долараў. У выніку была ўзбуджана крымінальная справа па ч. 3 арт. 210 (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі).

«Як толькі ўзбудзілі справу, мне вытруцілі гарод — ёсць заключэнне экспертаў, але, вядома, нікога не знайшлі. Потым у райвыканкам сталі паступаць ананімныя лісты аб тым, што мае дзеці знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы, і іх трэба выняць», — распавядае Вольга.

Фітасанітарная экспертыза пацвердзіла, што расліны ў гародзе Вольгі былі апрацаваныя хімікатамі і ў выніку загінулі.

Падчас праверкі Дзяржкантроля і УУС выявіліся 15 падробленых даведак: людзі атрымалі кватэры, не заплаціўшы грошы. Сярод людзей, якім выдавалі даведкі, — і цяперашні старшыня Хацежынскага сельвыканкама Юрый Стукаў (Вольга Саўчына ў судзе даказала, што раней ён здзейсніў крадзеж паліва).

## Чыноўнікі не хочуць бачыць парушэнняў

Тым часам другі дом па вуліцы Міра, 17А быў уведзены ў эксплуатацыю ў 2013 годзе, а ўжо ў 2014-м быў складзены акт аб тым, што ён падтапляецца, то бок адсутнічае належная гідраізаляцыя. Апроч таго ламаюцца ацяпляльныя катлы ў кватэрах жыхароў.

«Але на гэта ніхто не звяртае ўвагі. І калі заводзіцца крымінальная справа, Каваленка піша ў пракуратуру Мінскага раёна заяву аб тым, што я ў 2007 годзе незаконна стала на ўлік тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў», — разводзіць рукамі Вольга.

Цяпер яе сям'ю пагражаюць пазбавіць жылля. Сама жанчына, у сваю чаргу, сцвярджае, што ніхто не хоча бачыць парушэнняў хацежынскіх чыноўнікаў.

«З 2016 года працягваюцца праверкі пракуратуры, УУС, ГУУС. Пішацца заява, пачынаецца праверка, потым чамусьці прыходзіць адмова. Мы ідзем да намесніка пракурора Мінскай вобласці, кажам, што праверка праведзена, але не ўлічана тое, тое і тое, — і яна аднаўляецца. І так больш за 20 разоў», — апісвае алгарытм суразмоўца.

Вольга Саўчына распавядала пра сітуацыю ў Хацежына кіраўніцы Адміністрацыі прэзідэнта Наталлі Качанавай, пасля чаго і пачалася тая самая праверка Дзяржкантролю і УУС Мінскай вобласці. Але чамусьці яна была спынена.

Тым не менш пасля паходу да Качанавай было дадзена даручэнне выправіць дапушчаныя пры будаўніцтве дэфекты, такое ж распараджэнне даў старшыня райвыканкама. Але ўпраўленне капітальнага будаўніцтва не паслухалася і вырашыла праз суд спагнаць 40 000 рублёў з будаўнічага трэсту. Праўда, адкуль узялася гэтая сума, ніхто не ведае. Узнікае пытанне: дзе УКБ (заказчык будаўніцтва) было раней і чаму не сачыла за якасцю выканання прац?

Суд упраўленне выйграла, але на апошнім судовым пасяджэнні прагучала, што заяўленая ў пазове сума заніжаная. Але УКБ хоча аддаць грошы кааператыву і ўсе звароты жыльцоў зняць з кантролю — гэта пазначана ў адказе новага дырэктара УКБ Шэпелева.

Хадзіла Вольга і да памочніка кіраўніка дзяржавы — інспектара па Мінскай вобласці Ігара Яўсеева, які спачатку паабяцаў разабрацца, а пасля даслаў ліст з прапановай звярнуцца ў іншыя арганізацыі. У выніку жанчына пакінула на яго скаргу ў кнізе скаргаў і прапаноў.

Па словах Вольгі Саўчынай, чыноўнікі не хочуць бачыць праблему, па ўсёй верагоднасці, звязаную з крадзяжом бюджэтных сродкаў, называючы яе «безгаспадарлівасцю», а ўсю адказнасць перакладваюць на жыльцоў: маўляў, самі выбіралі старшыню кааператыву і павінны былі кантраляваць працэс будаўніцтва.

«Цягам усіх гэтых гадоў не было сходаў жыльцоў. Але калі мы паднялі дакументы, выявілася, што яны нібыта былі ледзьве не кожныя два тыдні, і на іх прысутнічалі 94 чалавекі!» — абураецца Вольга.

## «Закон для ўсіх аднолькавы»

«Я не даю не працаваць мясцовым выканаўчым уладам, — усміхаецца жанчына. — Некаторыя людзі займаюцца толькі тым, што трэба ім. А мне трэба ўсё: дарога, дзіцячы садок, транспартнае спалучэнне».

Па яе словах, людзі баяцца выказваць сваё меркаванне і абараняць сябе, ведаючы, што адбываецца ў беларускіх судах.

Пасля таго, як спыніліся праверкі, пасады пазбавілі старшыню кааператыву Людмілу Змушко, якая дала доступ да дакументаў. І на яе месца паставілі Наталлю Шчасную, па словах Вольгі — чалавека сістэмы, якая выконвае тое, што ад яе патрабуюць.

«Калі яна прыйшла, чамусьці ўсе дакументы зніклі, база дадзеных бухгалтэрыі аднаўленню не падлягае. А старшыня, замест таго, каб абараняць правы людзей і патрабаваць выпраўлення дэфектаў, толькі робіць выгляд, што гэтым займаецца. Па факце, мы зноў засталіся адны», — заключае Вольга Саўчына.

Сярод тых, хто не баіцца і спрабуе дамагчыся адказаў ад уладаў, жыхарка таго самага дома «з падмочанай рэпутацыяй» па вуліцы Міра, 17А Галіна Аляксандраўна. Яна прымае нас з Вольгай на кухні і за гарбатай паказвае стосы фатаграфій сутарэнняў яе дома, што затапліваюцца, а таксама дакументаў — вынікі перапіскі з дзяржаўнымі інстанцыямі.

Як выявілася, літаральна перад намі аглядаць дом прыязджала камісія з УКБ, але жыхароў пра гэта ніхто не інфармаваў.

«Наша старшыня хавае гэта ад нас. Яна нічога не хоча рабіць — абавязкова напішыце пра гэта», — просіць Галіна Аляксандраўна.

Зрэшты, сама старшыня ЖБВК «Дом Хацежына» Наталля Шчасная спачатку вагалася, ці даваць каментары «Новаму Часу», але ўрэшце адмовілася нешта нам казаць.

«Я лічу, што закон для ўсіх грамадзян аднолькавы — хоць ты памочнік кіраўніка дзяржавы, хоць хто, і патрабаваць яго выканання з усіх трэба аднолькава», — заключае Вольга.

Яна не збіраецца здраджваць сваім прынцыпам, хаця прызнаецца: апошнім часам даводзіцца перажываць за бяспеку сваіх дзяцей, дый сваю таксама. І хоць наўпроставых пагроз на адрас жанчыны пакуль не паступала, а карная псіхіятрыя ў нас забаронена, праз знаёмых яна атрымала параду ўзяць даведку аб стане свайго псіхічнага здароўя...



Галіна Аляксандраўна



Цвіль ды іржа раз'ядаюць новы дом

# «Мне не да твару грым

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Удар быў настолькі моцным, што, зваліўшыся на зямлю, яна перакулілася некалькі разоў. У знявечаным целе яшчэ дыхала жыццё, але крычаць ад болю было немагчыма. Раздробленыя рэбры ўпіліся ў лёгкія. Кроў ішла горлам, і першы лістападаўскі снег станавіўся чырвоным.**





Аўтабіяграфія

Я, Янішчыц Яўгенія Іосіфаўна, нарадзілася 20 лістапада 1948 года ў вёсцы Рудка Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыўшы сярэднюю школу ў вёсцы Парэчча, паступіла ў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя Леніна. Зараз з'яўляюся студэнткай 5-га курса філалагічнага факультэта.

Выступаю ў друку з 1965 года. Вершы друкаваліся ў часопісах „Маладосць" і „Беларусь", у выданнях беларускага „Дня паэзіі", у калектыўным паэтычным зборніку БДУ, Палескага педагагічнага інстытута, у перакладах на польскую і украінскую мовы, а таксама ў анталогіі маладой беларускай паэзіі на Украіне, у часопісах „Молодая гвардия", „Дружба народов", у „Литературной газете" і „Литературной России".

З'яўляюся ўдзельнікам V Усесаюзнай нарады маладых пісьменнікаў у Маскве і IV Усесаюзнага фестываля маладой паэзіі ў Горкім.

Евгения Янишчыц

**Фота Яўгеніі Янішчыц з яе асабовай справы і аўтабіяграфія, напісаная ўласнай рукой паэткі**

**Да дня памяці Янішчыц ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» адкрыў шырокай публіцы ўнікальныя дакументы з асабовай справы Яўгеніі, што захоўваецца ў архівах СБП. Перад вамі — фота і аўтабіяграфія паэткі, напісаная яе ўласнай рукой**

## Трагедыя «палескай ластаўкі»

Хтосьці з суседзяў на вуліцы закрычаў ад жаху. Больш трывалыя аператыўна выклікалі «хуткую». Фельчары з болемназіралі, як душа пакідае няшчасную: шанцаў у яе, што выпала з восьмага паверха аднаго з мінскіх дамоў 25 лістапада 1988 года, не было аніякіх.

27 лістапада 1988 года газета "Звязда" паведаміла пра сыход з жыцця члена КПСС, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі ЛКСМБ, члена прэзідыума праўлення Саюза беларускіх пісьменнікаў, члена Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру, члена праўлення Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, дэпутата Савецкага раёна г. Мінска, паэтэсы Яўгеніі Іосіфаўны Янішчыц.

Менавіта яна і стала ахвярай страшэннага падзення. Аднак, паводле савецка-камуністычнай традыцыі, прычына смерці не раскрывалася: сціпла гаварылася, што Янішчыц «заўчасна памерла». Таму людзі, знаёмыя з паэткай асабіста альбо з яе творчасцю, задавалі адвечныя пытанні: "Як? Дзе? Калі?" Што магло здарыцца з саракагадовай прыгожай жанчынай, якая па сваіх знешніх дадзеных магла супернічаць з многімі тагачаснымі айчыннымі і замежнымі зоркамі кіно і эстрады? Блізкія і сваякі ведалі, што ў Янішчыц меліся праблемы ў асабістым жыцці (развод, хвароба сына). Аднак, здавалася, яна ўсё пераадолела мужна («прайду быллём і церпкай лебядою»). Не было ў Янішчыц пытанняў і з вечнай бядою паэтаў і інтэлігенцыі — алкаголем.

Таму, калі прычына скону Яўгеніі стала вядомай, яе смерць імгненна абрасла байкамі і чуткамі. Каго толькі ні вінавацілі! Былога мужа, нейкія злыя знешнія сілы, зайздроснікаў і нават усюдыісная КДБ. Прыхільнікі апошняй версіі, тым не менш, прыводзілі, на іх думку, «жалезныя» аргументы: нібыта Янішчыц, якая мела магчымасць выезду за мяжу, магла патрапіць пад уплыў беларускай «нацыяналістычнай» дыяспары. У якасці рэчавага доказу дэманстравалі сумеснае фота Янішчыц і знакамітага на ўвесь свет беларускага эмігранцкага спевака Міхаіла Забэйды-Суміцкага, казалі пра іх сумесную перапіску.

Такі аргумент — прымітыў не толькі з боку здаровага сэнсу, але і такога банальнага факта, як спіс падпісантаў некралогу, прысвечанага Янішчыц. Сярод іх фігуравалі першыя камуністы рэспублікі (Анатоль Малафееў, Валерый Пячэннікаў, Пётр Краўчанка), члены Савета міністраў (Ніна Мазай), а таксама ўвесь афіцыйны літаратурны бамонд БССР.

Цікава, што беларускія савецкія ўлады дазволілі выказаць свае спачуванні апальнаму Алесю Адамовічу. Тым больш, што ён зусім нядаўна назваў Беларусь і Мінск «Вандэяй перабудовы», дзе сканцэнтраваны самыя кансерватыўныя сілы.

Тады напрошваліся іншыя прычыны: няшчасны выпадак (выпадкова выпала, вешала бялізну на балконе) альбо наўмыснае самазабойства (працяглая дэпрэсія, выкліканая самымі рознымі абставінамі, у тым ліку і творчымі; сучаснікі Янішчыц у адзін голас сцвярджалі, што яна вельмі балюча ўспрымала крытыку сваіх вершаў і г.д.).

Як бы там ні было, трагічна-загадкавая смерць Янішчыц, безумоўна, выклікала рэзананс як у партыйна-дзяржаўных, так і ў вядучых літаратурных колах рэспублікі: сітуацыю, калі з балкона кідаюцца лаўрэаты дзяржаўных прэмій, нармальнай назваць ніяк нельга.

У некралогу гаварылася, што творчасць Яўгеніі Янішчыц адрозніваецца высокай грамадзянскасцю, пранікнёнай любоўю да жыцця, чалавека і роднага краю, ёй уласціва глыбокае адчуванне трывог часу, а таксама кроўная знітаванасць з лёсам народа. Не ўсялякі паэт і літаратар заслугоўваў такіх панегірыкаў, а самой Янішчыц лёс ніяк не прадказваў кар'еру вершатворцы.

### З багны

Жэня Янішчыц нарадзілася, гаворачы словамі музычнага беларускага класіка Анатоля Багатырова, у самых пушчах Палесся — у вёсцы Рудаўка Пінскага раёна ў сям'і калгаснікаў. Той факт, што ў сярэднюю Парэцкую сярэднюю школу будучы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі хадзіла праз пяць кіламетраў, сведчыў пра многае. І, перш за ўсё, пра тое, што Янішчыц нарадзілася, як кажуць, «без права на перспектыву». Сапраўды, што чакала вясковую дзяўчынку? Звычайны саўгас-тэхнікум, а пасля — вяртанне ў родныя пенаты і цяжкая сялянская — ад світання да цямна — праца? Аднак у Жэні мелася тое, што адрознівала яе ад тысяч аднагодкаў, — паэтычны талент.

Янішчыц пачала пісаць першыя вершы і дасылаць іх у «Полесскую правду» — орган Пінскага тэрытарыяльнага аддзялення ЦК КПБ. Гэтае рэгіянальнае выданне нават па савецкіх мерках было даволі ўдалым, бо акрамя агітацыйна-прапагандысцкага афіцыёзу ўмела падавала мясцовы матэрыял з прыцягненнем вучняў мясцовых школ.

«Полесская правда» намаганнямі журналісцкага калектыву стварыла нешта накшталт літаратурнай рубрыкі, куды юныя дараванні маглі прапаноўваць свае творы. 12 студзеня 1963 года «Полесская правда» надрукавала рускамоўны верш Янішчыц пад назвай «Голубь».

***В клетке новой голубой, что под крышей дома,***
***Поселился голубок, всем жильцам знакомый...***

Аднак акрамя Янішчыц старонкі «Полесской правды» штурмавалі і іншыя. Пра што толькі ні пісалі будучыя пушкіны і лермантавы: пра прыроду, бярозкі, Гагарына... Жадаючых апынулася настолькі шмат, што 10 верасня 1963 года «Полесская правда» надрукавала адмысловую рэдакцыйную занатоўку «Разговор о поэзии». Вітаючы імкненне юных палешукоў да паэзіі, занатоўка, тым не менш, жорстка іх крытыкавала. У ёй, у прыватнасці, адзначалася, што ў шматлікіх аўтараў «преобладает языковая несуразица, небрежность в построении фраз и целых оборотов». Асобны абзац занатоўкі быў прысвечаны спецыяльна Янішчыц. У цэлым, гаварылася ў занатоўцы, вершы Янішчыц «производят хорошее впечатление», асабліва «В школу» і «С первым маем». Аднак іншыя творы Жэні — вершы «Валентине Терешковой» (пасля свайго касмічнага палёту 16 чэрвеня 1963 года першая жанчына-касманаўт стала кумірам мільёнаў савецкіх дзяўчынак), "Маё Палессе", «Жнівень» былі расцэненыя як «откровенно слабые». Рэдакцыя раіла Янішчыц «не опускать руки» і працаваць далей: удасканальваць мову і форму, спалучаць куплеты не выпадкова ці спантанна, а свядома.

Тут трэба зрабіць невялічкае адступленне і адзначыць вось што. У большасці выпадкаў пачынаючыя (і асабліва юныя) паэты і пісьменнікі даволі эмацыйна рэагуюць на крытыку сваіх твораў. Нярэдка бывала і такое, што падобная крытыка ўплывала фатальным чынам:



**Янішчыц з Міхасём Забэйдам-Суміцкім. 1970-я гады. З фондаў БДАМЛіМ**

# ружовай маскі...»



**Яўгенія Янішчыц і Валянцін Мыслівец на сустрэчы з вайскоўцамі. 1980-я гады.** Фота Анатоля Каляды. З фондаў БДАМЛіМ

хлопчык ці дзяўчына больш ніколі не браліся за пяро.

Яўгенія Янішчыц не здалася, а працягвала працаваць. Першы сапраўдны поспех прыйшоў у канцы 1964 года, калі ў снежаньскім нумары «Бярозкі», штомесячнага дзіцячага часопіса Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і рэспубліканскага Савета піянерскай арганізацыі імя У.І. Леніна, быў надрукаваны яе верш «Зоры над Пінаю». У гэтым вершы Янішчыц удала спалучыла савецкія патрыятычныя матывы з апяваннем хараства палескага краю.

На юную паэтку звярнулі ўвагу сябры рэдкалегіі «Бярозкі» Пятрусь Броўка і Рыгор Барадулін. Вельмі дапамагла Янішчыц сябар той жа рэдкалегіі таленавітая і вядомая Еўдакія Лось. Іх знаёмства перарасло ў сапраўднае сяброўства. Парады Лось не раз дапамагалі Яўгеніі пазбегнуць непрыемных сітуацый.

Заўчасная — у 48 гадоў — смерць Еўдакіі аказала змрочны ўплыў на Янішчыц («да старасці Вам колькі вершаў і паэм»).

Супрацоўніцтва з мясцовымі і рэспубліканскімі выданнямі гарантавала Яўгеніі Янішчыц паступленне ў вышэйшую навучальную ўстанову. Яна абрала філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Аднак трэба было рухацца далей. У тагачаснай БССР практычна адзінай своеасаблівай пляцоўкай для маладых паэтаў і празаікаў была газета «Літаратура і мастацтва», дзе была створана адпаведная рубрыка «Будзем знаёмы». Публікацыя ў ёй не азначала імгненнай славы, аднак лічылася безумоўным прарывам.

І вось 21 верасня 1965 года на старонках «Літаратуры і мастацтва» з’явілася падборка вершаў Янішчыц («Радзіме», «На рацэ», «Золушка», «Мой верш») з прадмовай самога Генадзя Бураўкіна, які назваў Жэню не толькі таленавітай паэткай, але і «іскрай боскай».

Такім чынам, першы літаратурны плацдарм быў заваяваны.

**На юную паэтку звярнулі ўвагу сябры рэдкалегіі «Бярозкі» Пятрусь Броўка і Рыгор Барадулін. Спрыяла Янішчыц таленавітая і вядомая Еўдакія Лось. Парады Лось не раз дапамагалі Янішчыц пазбегнуць непрыемных сітуацый**



**Яўгенія Янішчыц у шлюбным строі. З фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры**

## Слава і няшчасце

У 1970 годзе свет пабачыў першы паэтычны зборнік Яўгеніі Янішчыц «Зімнія грамніцы», які на грамадскіх пачатках адрэдагаваў Генадзь Бураўкін. У анатацыі да зборніка адзначалася, што вершы Янішчыц друкаваліся ў расійскіх і украінскіх выданнях, нават у часопісе Гамбургскага педагагічнага інстытута.

Зборнік адрозніваўся вельмі кранальнымі мясцова-рэгіянальнымі матывамі («Прыедзь у край мой ціхі, тут продкаў галасы, тут белыя бусліхі і мудрыя лясы; хапае на Палессі і сонца і вады, і што ні двор — то песня, што вёска — то сады»), а такія вершы як «Непрыручаная птушка», «Ты пакліч мяне, пазаві» канчаткова замацавалі за Янішчыц рэпутацыю ўзыходзячай паэтычнай зоркі Беларусі.



**З сынам Андрэем**

Неўзабаве Яўгеніі Янішчыц быў аказаны высокі давер. У сакавіку 1971 года яна была прынятая ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

«Новы Час» публікаваў унікальныя матэрыялы: заяву Янішчыц аб уступленні і рэкамендацыі Васіля Зуёнка, Алега Лойкі і Генадзя Бураўкіна.

З’яўленне Янішчыц у беларускай літаратуры было абумоўлена не толькі яе паэтычным талентам, але і аб’ектыўным фактарам. Беларуская літаратура на тыя часы адчайна мела патрэбу ў прытоку новых сіл. «Колькі талентаў звялося» (Якуб Колас) у выніку сталінскіх рэпрэсій у шалёныя 1930-я гады, а таксама падчас Другой сусветнай вайны. Таму старое пакаленне беларускіх літаратараў вымушана было шукаць сабе будучую замену. Гэтую праблему, у прыватнасці, закрануў Ніл Гілевіч у спецыяльнай публікацыі пад назвай «Больш давяраць маладзейшым», якая была апублікавана ў «Літаратуры і мастацтве» ў студзені 1971 года напярэдадні шостага з’езду пісьменнікаў Беларусі.

Янішчыц добра разумела, што аднаго зборніка вельмі мала. Як казаў калісьці Аляксандр Салжаніцын, першую кнігу і дурань напіша. Тым больш, што на пяткі наступалі таленавітыя і амбіцыйныя Вольга Іпатава, Ніна Мацяш, Таіса Бондар і іншыя.

Поспех трэба было замацаваць. І вось на працягу 1974–1988 гадоў з друку адзін за адным выйшлі ажно шэсць зборнікаў вершаў паэткі. І гэта пры тым, што Янішчыц працавала: літаратурны кансультант «Сельскай газеты», загадчык аддзела часопіса «Маладосць». Больш за тое, Янішчыц атрымала ажно дзве літаратурныя прэміі — імя ЛКСМБ (1978) за зборнік «Дзень вечаровы» і імя Янкі Купалы (1986) за кнігу «Пара любові і жалю».

Адначасова Янішчыц рабіла і адміністрацыйную кар’еру: стала сябрам прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў і сябрам іншых грамадскіх аб’яднанняў, атрымала ўнікальную магчымасць выезду за мяжу.

Янішчыц вырашыла і адну з самых вострых праблемаў — жыллёвую. Спачатку атрымала кватэру на сталічнай вуліцы Ульянаўскай, а потым — трохпакаёўку на Старажоўскай з відам на Свіслач, што сведчыла аб прыналежнасці да касты абраных.

І сапраўды, складваецца такое ўражанне, што ў сваіх вершах Янішчыц быццам наўмысна абыходзіла вострыя вуглы савецкай рэчаіснасці, не гаворачы ўжо пра крытыку сацыялістычнага грамадска-палітычнага ладу. Адам Глобус успамінаў пра сапраўднае пакланенне Янішчыц перад начальствам.

Янішчыц усяляк аказвала дапамогу новаму пакаленню беларускіх паэтаў (Славамір Адамовіч, Анатоль Сыс), аднак рабіла гэта выключна ад імя партыі і ўрада. Ва ўсялякім разе, так гэта канстатавана ў прадмове да зборніка «...І надзея, і лёс, і ўспамін», 1988 год). Не кранала Янішчыц у сваіх вершах і Чарнобыльскую катастрофу.

Ды і сама Янішчыц вымушана была ў сваёй паэзіі праводзіць «генеральную лінію». Адсюль — ярка выяўленыя антыамерыканскія матывы, крытыка «зорных войнаў», палітыкі Кітая і ФРГ, нагнятанне жахаў атамнай вайны. Трагедыя Янішчыц палягала ў тым, што яна не магла пісаць тое, што бачыла сапраўды.

Трэба аддаць належнае асабістай мужнасці Янішчыц. Зборнікі з’явіліся ў самыя складаныя часы яе асабістага жыцця: развод з мужам Сяргеем Панізнікам (1972), аўтамабільная катастрофа ў Магілёве (1976), цяжкая хвароба сына (1985), якому яна прысвяціла з верасня па кастрычнік 1985 года ажно 11 паэтычных частак.

Менавіта хвароба сына адлюстравала духоўны разлом Янішчыц. Так, паэтка Алёна Васілевіч сведчыла, што ў лістах да яе Янішчыц прызнавалася ў малітвах да Бога, каб той вылатаваў сына.

Аварыя (своеасаблівая сублімацыя Янішчыц адлюстравалася ў вершы «Анна Герман» — вялікая польская спявачка сама трапіла ў аўтамабільную катастрофу), хвароба сына не прайшлі дарма, а сталі прычынай дэпрэсіі, а таксама магчымага псіхічнага разладу. Той жа Адам Глобус сцвярджае, што падчас паездкі ў Фінляндыю ў Янішчыц здарыўся прыпадак і што сама яна пабывала ў Навінках.

«А лепшых — час не беражэ». Так аднойчы напісала Яўгенія Янішчыц. Час не пашкадаваў і яе. Зараз цяжка сказаць: што б выбрала Янішчыц ва ўмовах тагачаснага імклівага крушэння савецкіх ідэалаў. Ці падтрымала б, як Данута Бічэль-Загнетава, нацыянальнае адраджэнне, альбо стала б на бок мінулага. Зразумела адно: такія, як Яўгенія Янішчыц, ніколі б не стаялі ў баку, а яе багатая літаратурная спадчына патрабуе не дзіцяча-наіўнай ідэалізацыі, а глыбокага і ўсебаковага даследавання.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ДАНІЯ. Імігрантаў — на востраў

Аматары дзіцячай літаратуры шырока адзначалі 110-ю гадавіну з дня нараджэння Мікалая Носава, які напісаў славуты цыкл пра «Нязнайку». Падаецца, што «Нязнайка» папулярны не толькі ў нас. Інакш цяжка сказаць, адкуль у дацкага Кабміну з'явіўся праект, які вельмі нагадвае сюжэт Носава пра Востраў дурняў. На той востраў, паводле кніжкі, улады высылалі ўсіх люмпенаў. Нешта падобнае прыдумалі і ў дацкім урадзе. Толькі ў дацкай версіі на бязлюдны востраў плануецца высылаць нелегальных мігрантаў. Там яны будуць чакаць канчатковага рашэння суда наконт атрымання прытулку ў Даніі. Адпаведны востраў памерам 7 гектараў ужо знайшлі на прасторах Паўночнага мора. Доўгі час тэрыторыю выкарыстоўвалі для медычных даследаванняў вірусаў, аднак цяпер яе вырашылі скарыстаць інакш. Першую партыю мігрантаў мяркуюць адправіць на востраў у 2022 годзе, калі там пабудуюць нешта падобнае на вёску, дзе будзе святло і водаправод. Праўда, дасюль застаецца шмат пытанняў. У тым ліку тое, як паліцыя збіраецца падтрымліваць парадак на востраве. Варта нагадаць, што ў Носава жыхары Вострава дурняў у выніку ўздымаюць паўстанне і збягаюць.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Капялюш для прэзідэнта

У Казахстане 1 снежня адзначылі Дзень першага прэзідэнта. Сама назва свята ўвогуле гучыць крамольна. Атрымліваецца, што калі-небудзь у краіне з'явіцца і другі, і трэці прэзідэнты. Аднак пра гэта намагаюцца не казаць, а проста ўслаўляць нязменнага лідара Нурсултана Назарбаева. Пры гэтым чыноўнікі прыдумляюць розныя арыгінальныя хады. Праўда, цяпер свята перажывае крызіс жанру. Усё, што можна было перайменаваць у гонар Назарбаева, ужо перайменавалі. Засталіся толькі назвы гарадоў, але сам Елбасы катэгарычна супраць. Таму чыноўнікі спрабуюць рабіць свята больш папулярнейшым з дапамогай флэшмобаў і конкурсаў. У гэтым годзе адназначна ўсіх абставіў Цэнтр сацыяльнага ўзаемадзеяння і камунікацый. Цэнтр запусціў у Facebook флэшмоб #ПапаМыНаделиШапку. Удзельнікі флэшмобу здымалі спецыяльныя відэа, на якіх апранаюць галаўныя ўборы і просяць «тату» (так у афіцыёзе называюць Назарбаева) не хвалявацца за іх. Асаблівай папулярнасці тэма не атрымала. Зрэшты, казахскі народ не супраць Дня першага прэзідэнта, паколькі гэта дадатковы выходны.

**Паводле казахскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Унія — правобраз ЕС?

Калі верыць міністру замежных спраў Польшчы Яцэку Чапутовічу, Люблінская ўнія паміж Каралеўствам Польскім і Вялікім Княствам Літоўскім, абвешчаная ў 1569 годзе, была правобразам Еўрапейскага саюза. Пра гэта ён сказаў на прэс-канферэнцыі пасля сустрэчы міністраў замежных спраў Польшчы і Украіны. «Мы сёння ўзгадалі дату — гадавіну Люблінскай уніі. Польшча і Украіна былі ў той час у адным арганізме, які можна было б назваць мадэльным, узорным для цяперашняга Еўрасаюза», — сказаў кіраўнік МЗС Польшчы. Такая трактоўка, праўда, падаецца трошкі нацягнутай, паколькі па ўмовах Люблінскай уніі ад ВКЛ у склад Каралеўства Польскага былі перададзеныя тэрыторыі Валыні, Кіеўшчыны і Падолля. Спроба культурна-рэлігійнай асіміляцыі мясцовых жыхароў у выніку закончылася паўстаннем Хмяльніцкага. Так ці інакш, юбілей уніі будзе адзначаны з вялікім размахам. На пачатку студзеня наступнага года польскія ўлады зацвердзяць праграму ўрачыстасцяў у Любліне, кульмінацыя якіх прыйдзецца на 1 ліпеня. Менавіта ў гэты дзень у далёкім 1569 годзе Акт уніі быў зацверджаны на агульным сойме.

**Паводле польскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Спорт — ахвяра змены клімату

Французскае выданне «20 minutes» сенсацыйна напісала пра Сусветную канферэнцыю ААН па пытаннях змены клімату, што прайшла ў польскім Катавіцэ. Выданне правяло даследаванне ўплыву зменаў клімату на спорт. Высновы сапраўды сенсацыйныя. У выпадку працягу працэсу глабальнага пацяплення спорт чакаюць цяжкія часы. Некаторыя спартовыя дысцыпліны могуць папросту знікнуць праз адмоўны ўплыў тэмпературы на арганізм спартсмена. Пад пагрозай веласіпедныя гонкі, тэніс і нават футбол. Напрыклад, тэнісны турнір Australian Open дакладна давядзецца ў хуткім часе скасаваць. Арганізатары наступнай Алімпіяды ў Японіі ўжо прызнаюць наяўнасць смяротных рызыкаў для ўдзельнікаў марафону. Праўда, магчымая адаптацыя спорту да новых умоваў. Марафоны плануецца пачынаць прыкладна а 5-й раніцы, а футбольныя матчы скарачаць. Магчыма, у перспектыве з'явяцца стадыёны са штучным кліматам. Хаця ёсць яшчэ адзін варыянт — перанос турніраў у больш халодныя краіны. Так, славутую велагонку Tur de France ужо зараз прапануюць праводзіць у Скандынавіі.

**Паводле французскай прэсы**




Фота www.republica.com

# Бітва за падручнік

Алег НОВІКАЎ

**«Unidad Didáctica Herenegun» — так называецца праграма выкладання гісторыі Краіны Баскаў для мясцовых ВНУ, якую выдалі напярэдадні цяперашняга навучальнага года. Сам падручнік прадставілі на суд публіцы ў кастрычніку. Рэакцыя на яго аказалася такой гучнай, што скандал трывае і цяпер.**

Усё праз параграфы, прысвечаныя феномену ЕТА — групоўкі, якая з 1960-га па 2018-ы дамагалася незалежнасці краю тэрарыстычнымі метадамі. Менавіта прамежак часу паміж 1960 і 2018 годам — вырашылі вывучаць як асобную частку гісторыі. Прычым да гэтага перыяду прапануецца падыходзіць праз падвойную перспектыву: з аднаго боку, вывучаць гісторыю ЕТА, а з другога — эвалюцыю баскскага сацыяльна-палітычнага кантэксту. Гэта эвалюцыя мела ўласнае жыццё. Эканоміка, грамадства, інстытуцыянальныя рэалізаваліся насуперак дыскурсу і акцыям ЕТА.

Шмат хто пабачыў у такой інтэрпрэтацыі спробу рэабілітаваць тэрарыстаў. Апошнім, маўляў, надаецца зашмат увагі, хаця іх падтрымка ў баскскім грамадстве заўжды была дастаткова слабая.

Аднак апісанага вышэй метадычнага падыходу да падручнікаў не зразумелі не толькі іспанскія дзяржаўнікі, забабоны якіх традыцыйна прадстаўляе кансерватыўная Народная партыя (PP). У PP новы падручнік увогуле разглядаюць як прадукт тэрарыстычнага падполля, прадстаўнікі якога нейкім чынам, маўляў, прабраліся ў міністэрства адукацыі. Не спадабалася спікерам PP і згадка ў тэксце пра GAL — сакрэтную арганізацыю іспанскіх сілавікоў, якія таемна забівалі і катавалі баскскіх актывістаў у 1980-я гады.

Кампанію супраць рэабілітацыі ЕТА падтрымала і ліберальная Іспанія. Іх трыбуна, газета «El Mundo», піша: «Баскі пачалі зачыстку сваёй гісторыі. Цяпер студэнты мясцовых універсітэтаў павіны будуць ведаць самыя значныя аперацыі тэрарыстаў, іх арганізатараў і ўдзельнікаў. Наўрад ці пры гэтым выкладчыкі ўзгадаюць, што ЕТА забіла 800 мірных цывільных грамадзян. Фактычна гэта рамантызацыя групоўкі. Спроба надаць гвалту нейкую канцэпцыю. (...) Наша задача — змагацца супраць падобнай хлусні і маніпуляцыі».

Алею ў полымя скандалу падлілі сябры арганізацыі «Калектыў родных ахвяр тэрарызму» («Covite»), якія сцвярджалі, што грамадскасць нічога не ведала пра падрыхтоўку падручніка. Дасталася ад «Covite» таксама мадрыдскім чыноўнікам, якія дапусцілі публікацыю.

На гэтым фоне, падавалася, трошкі дзіўна выглядаюць заявы радыкальных баскскіх незалежнікаў з партыі «Bildu», якую неглаосна лічаць палітычнай вітрынай ЕТА. Яны, як не дзіўна, таксама не ў захапленні ад праграмы «Herenegun». У «Bildu» адзначаюць, што нехта намагаецца схаваць важныя факты, якія тычацца гісторыі ЕТА.

У новых падручніках няма гаворкі пра так званы Сусветны баскскі кангрэс, арганізаваны ў Парыжы ў 1956 годзе амерыканцамі, якія сябравалі з Франка. Пад ціскам спонсараў гэты кангрэс прагаласаваў за прызнанне баскамі рэжыму Франка. Пастанова выклікала шок сярод баскскай моладзі і падштурхнула некаторых пайсці ў тэрор. Нашчадкі ўдзельнікаў таго кангрэсу ў выглядзе правацэнтрысцкай Баскскай нацыянальнай партыі (PNV) дасюль кіруюць рэгіёнам і ўсё яна не зацікаўленыя прызнаць, што ў свой час сталі стымулам радыкалізацыі баскскага грамадства.

Між тым, урад аўтаноміі не пагаджаецца з крытыкамі. На іх думку, змест «Herenegun» не ўтрымлівае ніякага праслаўлення ці прапаганды палітычнага гвалту. Дадатковы аргумент: у любым выпадку, трэба было пачаць распавядаць пра гісторыю рэгіёна. Усе папярэднія вучэбныя праграмы сарамліва абыходзілі такія тэмы, як тэрарызм ЕТА і дзейнасць фармавання GAL.

«Гэта рэальнасць нашага краю, і гэта трэба распавесці моладзі. Але распавядаць, што адбылося, трэба так, каб не апраўдваць бакі канфлікту. Апавяданні пра катаванні GAL не апраўдваюць гвалту ЕТА, не адбельваюць яе гісторыю, не падтрымліваюць яе тэорыю канфлікту. Аповед пра трагедыю і боль — следства акцый тэрарыстаў — не апраўдвае стварэнне ЕТА або практыку катаванняў. Праблема ў тым, што людзі глядзяць на сябе праз люстэрку мінулага. На жаль, часцяком у тым люстэрку з'ўляецца пачвары і непрыемны вобраз. Пабачыўшы пачвару, некаторыя спрабуюць разбіць люстэрка. Але мірнае суіснаванне ў грамадстве патрабуе шчыра зірнуць у тое люстэрка мінулага», — кажа адзін з аўтараў праграмы «Herenegun».

Пакуль у Краіне Баскаў працягваюцца спрэчкі гісторыкаў, камісары цэнтральнага ўраду ў канфлікт намагаюцца не ўмешвацца. Прадстаўнік Мадрыду ў Краіне Баскаў заклікаў антаганістаў знайсці кампраміс наконт зместу новай вучэбнай праграмы.

Аднак пазіцыя Мадрыду можа змяніцца, як толькі ад улады адсунуць цяперашні ўрад сацыялістаў Педра Санчэса, які, дарэчы, блакуецца з PNV. Такая перспектыва выглядае цалкам рэальнай з улікам выбараў у Андалузіі. Па іх выніках сацыялісты страцілі ў рэгіянальным парламенце абсалютную большасць мандатаў і не маюць шанцаў сфармаваць урад — нават у кааліцыі з іншымі левымі.

Альтэрнатывай, хутчэй за ўсё, будзе правая кааліцыя. У тым ліку з удзелам партыі Vox — першай праварадыкальнай партыі, якой атрымалася патрапіць у заканадаўчыя органы за 46 гадоў існавання іспанскай дэмакратыі. І, магчыма, для Vox Андалузія — гэта толькі старт. Хутка па ўсёй краіне пройдуць муніцыпальныя і парламенцкія выбары, а на травень прызначаныя выбары ў Еўрапарламент.

На фоне поспехаў Vox нельга выключаць як мінімум радыкалізацыі дыскурсу іспанскіх правых. Як вынік, адбудзецца паступовае вяртанне да аднаго з догматаў спадчыны Франка, які сцвярджае, што ніякай баскскай нацыі ўвогуле не існуе, а іх аўтаномію трэба ліквідаваць. Менавіта такое абяцанне, дарэчы, і прысутнічае ў праграме Vox. Калі нацыі не існуе, то што ўжо казаць пра нейкія падручнікі яе гісторыі?

# Хто баіцца Ягора Летава?

Алег НОВІКАЎ

**У Расіі 4 снежня скончыўся праект «Вялікія імёны Расіі», які вызначаў прозвішчы вядомых асобаў, чыімі імёнамі назавуць 47 аэрапортаў краіны. Не абышлося без скандалаў. Стаць «чалавекам-аэрапортам» не далі панк-музыку Ягору Летаву.**


Фота www.twitter.com



Фота www.www.om1.ru

«Шляхам народнага галасавання вызначым імёны выбітных суайчыннікаў, чые імёны будуць нададзены буйным аэрапортам краіны!» — з такім заклікам у кастрычніку гэтага года звярнуліся да жыхароў Расіі шэраг грамадскіх патрыятычных арганізацый. Цікава, што пры гэтым патрыёты заклікалі раўняцца на амерыканцаў. Аказваецца, у ЗША каля 60 працэнтам аэрапортаў нададзеныя імёны гістарычных асобаў. Аналагічная сітуацыя і ў Еўропе: там імёны гістарычных персон носіць трацiна паветраных гаваняў.

Паводле працэдуры, па выніках публічных абмеркаванняў у кожным рэгіёне фармаваўся свой спіс кандыдатаў. Пасля, па выніках сацыялагічных апытанняў, спіс скарачаўся да трох прэтэндэнтаў. У апошнім раўндзе любы жадаючы рознымі шляхамі (ад СМС да звычайнай папяровай анкеты) мог прагаласаваць за аднаго прадстаўніка з гэтай тройкі.

Кастынг імёнаў справакаваў ажыятаж. Апазіцыйная «Новая газета» нават пабачыла ў гэтым тэхналагічны прыём Крамля. Маўляў, «уся гісторыя з аэрапортамі і нязгодай з абранымі кандыдатурамі — вельмі зручны спосаб пераключыць увагу, канфліктны патэнцыял і незадаволенасць людзей з нейкіх непасрэдна важных для ўлады праблем на іншыя». Зрэшты, было і другое тлумачэнне: конкурс зацікавіў расіян, бо гэта — адзіныя больш-менш дэмакратычныя выбары ў краіне.

Аднак, падаецца, і тут не абышлося без махінацый. Дастаткова ўзгадаць, як у Калінінградзе супраць кандыдатуры Імануіла Канта мабілізавалі адмінрэсурс. Не менш феерычнай атрымалася гісторыя ў Омску, дзе ўзнікла ідэя ўвекавечыць у назве паветранай гавані свайго земляка, лідара гурта «Грамадзянская абарона» («ГрОб») Ягора Летава (1964–2008).

На першым этапе галасавання ў сацсетках Летаў быў абсалютным лідарам. Аднак у выніку ў шорт-ліст нечакана не трапіў. Афіцыйная прычына — падчас тэлефоннага сацапытання за Летава выказалася толькі 6% рэспандэнтаў. «Імя Летава не трапіла ў фінальны этап конкурсу, паколькі гэта цалкам адлюстроўвае меркаванне грамадскасці», — рэзюмавала нейкая омская чыноўніца.

У такую аргументацыю, напэўна, можна было паверыць, калі б не цікавая акалічнасць. Напярэдадні складання шорт-ліста фігуру Летава і яго прыхільнікаў атакавалі на самым высокім узроўні. Міністр культуры Уладзімір Мядзінскі назваў прыхільнікаў славутага музыканта «маргінальнай аўдыторыяй», а іх кампанію «хайпам». «Надаць аэрапорту імя Ягора Летава — усё роўна, што назваць горад пры жывым Пушкіне ў гонар паэта Баркова, што пісаў мацерныя вершы», — заявіў пракрамлёўскі журналіст Уладзімір Салаўёў.

Цяжка зразумець, чаму сучасная расійская ўлада баіцца Летава. Тым больш, што позні Летаў нядрэнна ўпісваецца ў «скрэпы» мадэлі Пуціна. У 1994 годзе Ягор Летаў стаў адным з сузаснавальнікаў Нацыянал-бальшавіцкай партыі Эдуарда Лімонава, якая актыўна ваявала за «рускі мір». Музыка заўсёды цураўся цямнасці ў палітычных пытаннях, аднак ані разу не быў заўважаны ў антысавецкіх ініцыятывах, і, хутчэй, нават рэкламаваў савецкую спадчыну ў сваіх песнях.

Найбольш простае тлумачэнне парадоксу — «рожей не вышел». Відавочна, у крамлёўскай адміністрацыі, якая задумала конкурс, спадзяваліся, што мапа краіны ў выніку пакрыецца імёнамі больш-менш правільных людзей: палкаводцаў, палітыкаў, культурных дзеячаў. Каб без усялякіх двухсэнсоўнасцяў і небяспечнага вальнадумства. А тут раптам… нейкі Летаў!

Мажліва, улада спалохалася, што аэрапорт імя Летава толькі акрыліць яго прыхільнікаў, якія адразу будуць патрабаваць большага. Сапраўды, у гэтым асяроддзі ішлі дэбаты, што аб'ект, названы ў гонар Летава, павінен мець і адпаведны ўнутраны антураж. «Унутры (аэрапорта) усе павінны сядзець на крэслах-мяшках, паліць і кідаць на падлогу попел, у кавярнях павінна быць выключна гарэлка, партвейн і бутэрброды па самых дэмакратычных коштах», — марылі фанаты Летава на сваіх інтэрнэт-форумах.

Нарэшце, вядомы музычны крытык Арцемій Троіцкі нагадаў, што стыль «панк» у апошні час актыўна палітызуецца. «Мяркуючы па ўсім, характэрная для «старых» панкаў алкагольна-сексуальная тэматыка адышла ў нябыт, а на парадку дня стаяць сацыяльныя і палітычныя пытанні», — піша Троіцкі. Ён таксама лічыць, што «пратэстныя падзеі 2010–2012 гадоў і ваенны канфлікт ва Украіне далі штуршок новаму пакаленню расійскага панку і пост-панку, якія сталі сёння, бадай, самай дынамічнай часткай айчыннай рок-музыкі». З гэтага можна зрабіць выснову, што ў Крамлі пабаяліся папулярызацыі стылю, што ўтрымлівае выразна нелаяльны падтэкст.

У любым выпадку, проста так замяць скандал улада не здолела. Каб супакоіць незадаволенасць у сецціве наконт махінацый на конкурсе, уладальніку прыватнага аэрадрома ў Омскай вобласці дазволілі назваць яго ў гонар лідара «Грамадзянскай абароны». Адначасова яраслаўскі навуковец назваў імем Летава адзін з відаў жукоў.

Мараль гэтай гісторыі адна: «Летаў жыў! Летаў жывы! Летаў будзе жыць!»

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Поль Кагамэ



Прэзідэнт Руанды — першы прэзідэнт свету, які абвясціў вайну няякаснай касметыцы.

Усё праз тое, што больш за трацiну жанчын у краіне рэгулярна ўжываюць сродкі для асвятлення скуры. Пагоня за модай можа каштаваць вельмі дорага — на рынку шмат падробленай прадукцыі. Праз наяўнасць у касметычных сродках ртуці і іншых небяспечных інгрэдыентаў можна сапсаваць не толькі скуру, але і займець больш сур'ёзныя хваробы. Некаторыя дэрматолагі кажуць, што з-за адбельвання рак скуры трыумфальна крочыць па ўсёй Афрыцы. Таму ў Руандзе і вырашылі ўзяць сітуацыю пад кантроль.

Поль Кагамэ запатрабаваў скласці спіс небяспечных сродкаў і мабілізаваць паліцыю на барацьбу з іх продажам. Адначасова Міністэрству аховы здароўя даручана павысіць дасведчанасць грамадзян наконт небяспекі адбельвання скуры. Айчынным і замежным прадпрымальнікам, якія жадаюць інвеставаць у касметычны бізнес, Кагамэ гатовы надаць шмат бонусаў.

Прэса асцярожна каментуе згаданыя мерапрыемствы. На яе думку, вынік кампаніі будзе залежаць перш за ўсё ад культурнай і прапагандысцкай працы. Відавочна, што папулярнасць практыкі адбельвання твару хаваецца ў калектыўных забабонах, паводле якіх прыгажуня павінна мець выключна светлую скуру.

### Міхаіл Хадаркоўскі



Былы алігарх, заснавальнік і лідар антыпуцінскай ініцыятывы «Адкрытая Расія» зруйнаваў і без таго слабае адзінства апазіцыі тэзамі, якія былі агучаны падчас нядаўняй пражскай канферэнцыі «Расія без Пуціна».

У прыватнасці, ён прызнаў, што будучы ўрад РФ, складзены з чальцоў апазіцыі, зусім не збіраецца ўводзіць у краіне поўную дэмакратыю. Хадаркоўскі пацвердзіў, што выступае за моцную дзяржаву і прыярытэт буйнога (чытай, алігархічнага) бізнесу. Расія пры дэмакратах, па словах Хадаркоўскага, — гэта не дэмакратычная краіна, а толькі «краіна, якая ідзе да дэмакратыі».

Дэмакратычная грамадскасць пасажаў Хадаркоўскага, мякка кажучы, не зразумела. Атрымліваецца, што рэжым Пуціна праводзіць сацыяльна-эканамічны курс у слушным кірунку. Таму Хадаркоўскі ў спецыяльна запісаным відэа вымушаны быў даць дадатковыя тлумачэнні. У прыватнасці, ён патлумачыў, што цяпер у Расіі дзяржава якраз слабая, бо, напрыклад, не развітая належным чынам сацыяльная сфера і адсутнічае прававы парадак. Толькі ў слабай дзяржавы няма знешніх саюзнікаў. Аднак наўрад ці такія тлумачэнні дапамогуць вярнуць Хадаркоўскаму поўны давер лібералаў.

Зрэшты, у Крамлі Хадаркоўскаму таксама не паверылі. Дзяржаўныя СМІ адгукнуліся на пражскія тэзісы экс-алігарха расследаваннямі яго афёр у 1990-я гады. А паліцыя Екацярынбурга распачала адміністратыўную справу за арганізацыю анлайн-канферэнцыі з удзелам Хадаркоўскага.

### Джока Відода



Прэзідэнт Інданезіі, дзе мусульмане складаюць абсалютную большасць, і яго кабінет міністраў, якім, паводле Канстытуцыі, кіруе прэзідэнт, вырашылі натхніць суайчыннікаў на барацьбу з атэізмам і ерассю.

Для гэтага ў пракуратуры створаны спецыяльны нумар WhatsApp, на які кожны грамадзянін можа патэлефанаваць і паведаміць пра суайчынніка, учынкі або словы якога не адпавядаюць кодэксу сапраўднага мусульманіна. Праверыць гэта вельмі лёгка, калі спампаваць на тэлефон распрацаваны па замове ўраду дадатак Smart Pakem. У ім можна пазнаёміцца не толькі з асноўным спісам ерэтычных злачынстваў, але і быць у курсе апошніх фетваў — рашэнняў па спрэчным пытанні, якое вынасіцца клерыкальным аўтарытэтам і грунтуецца на прынцыпах ісламу ці на прэцэдэнтах мусульманскай юрыдычнай практыкі.

Для стымуляцыі даносаў у дадатку маецца таксама электронная форма скаргі на парушальніка веры, якую можна запоўніць і адразу ж даслаць на пошту пракурора.

Праваабаронцы, натуральна, наракаюць, што такія крокі ўраду выклічуць крымiналізацыю цэлых груп насельніцтва, бо ў краіне існуюць вялікія камуны хрысціян і будыстаў. Аднак чыноўнікі намагаюцца супакоіць крытыкаў, сцвярджаючы, што фокус-групай новай сістэмы нагляду будуць перш за ўсё сябры рознага кшталту ісламскіх сектаў, у першую чаргу радыкальных.

# Паліцэйскія супраць «баевіка» КПЗБ: трагедыя пад Гродна



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У міжваенны час чальцы Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і камсамольцы разгарнулі ў паўночна-ўсходніх ваяводствах Другой Рэчы Паспалітай актыўную дзейнасць, скіраваную на стварэнне на гэтых тэрыторыях «рэвалюцыйнай» сітуацыі, што справакавала б адарванне тэрыторыі Заходняй Беларусі ад Польшчы. Супрацоўнікі польскай Дзяржаўнай паліцыі вымушаныя былі адсочваць дзейнасць прасавецкіх арганізацый і змагацца з імі.**




Таблічка на Савецкай плошчы ў Гродна

## Антыдзяржаўныя элементы ў дзеянні

Найбольш распаўсюджанай тактыкай дзейнасці КПЗБ была агітацыя і прапаганда сярод моладзі. У траўні 1933 года ў адной з вёсак Гродзеншчыны сябры камуністычнага хаўрусу моладзі зрабілі вечарыну і запрасілі туды аднавяскоўцаў, жаўнераў Войска Польскага, якія прыехалі на пабыўку.

Вось як гэтыя падзеі ўзгадваў адзін з відавочцаў той «сустрэчы»: «На вечарыне выступіў з прамовай малады рэвалюцыянер і, звяртаючыся да салдат, расказаў, што адбывалася ў іх родных вёсках за той час, калі яны служылі. Расказаў, як панскі фашыстоўскі ўрад усялякімі хітрыкамі і гвалтам хацеў правесці па вёсках камасацыю (хутарызацыю. — НЧ), як шалелі тут карныя экспедыцыі. [...] Салдаты з вялікай увагай і цікавасцю слухалі тое, што ім гаварылі камсамольцы, а потым самі расказалі, як цяжка жывецца ім у панскім войску. Пасля гэтага салдаты прынялі рэзалюцыю, у якой з абурэннем пратэстуюць супраць правядзення фашыстоўскай камасацыі. [...] Адначасова салдаты далі прысягу, што будуць усімі сіламі змагацца супраць фашыстоўскай дыктатуры, што калі іх пашлюць разганяць дэманстрацыю, яны накіруюць зброю супраць паліцыі і афіцэраў. А калі польская буржуазія пачне вайну супраць Савецкага Саюза, яны будуць бараніць не панскую Польшчу, а вольную бацькаўшчыну рабочых і сялян усіх народаў — СССР. У іншай вёсцы на такой масоўцы салдаты не толькі далі прысягу змагацца, але напісалі прывітальны ліст да Чырвонай Арміі».

Такіх выпадкаў было дастаткова шмат. Усё гэта вельмі непакоіла афіцыйную Варшаву.

У чэрвені 1930 года Міністэрства ўнутраных спраў Другой



Казімір Рагачэўскі

Рэчы Паспалітай «для ўнутранага карыстання» падрыхтавала справаздачу пра дзейнасць камуністычных і анархісцкіх арганізацый на тэрыторыі Польшчы ў 1929 годзе. У дакуменце, у прыватнасці, адзначалася: «Пасля прыняцця на травеньскім з'ездзе ЦК КПЗБ галоўных задач партыі, ажывілася дзейнасць гэтай арганізацыі, з'явіліся новыя партыйныя, моладзёвыя, МОПРаўскія ячэйкі, узмацнілася перакідка літаратуры і матэрыялаў праз мяжу, арганізуюцца сходы і канферэнцыі. [...] Для захавання канспірацыі па рашэнні сходу ЦК КПЗБ была ўведзена нумарацыя акругаў і лакальных арганізацый замест выкарыстання назваў мясцовасцяў. Арганізацыі КПЗБ маюць асобную нумарацыю.

Так, акруговы камітэт у Вільні меў нумар 22, у Беластоку — 29, у Гродне — 26, у Баранавічах і Слоніме — 21, у Пінску — 25. Акруговы камітэт камсамолу ў Беластоку меў нумар 18». Паліцэйскія аналітыкі таксама адзначалі, што «кожную ячэйку камсамола павінен быў курыраваць «дасведчаны» сябар КПЗБ, які, апроч іншага, павінен быў разгарнуць працу сярод маладых жаўнераў Войска Польскага (асабліва 1909 года нараджэння).

Ва ўзгаданым паліцэйскім дакуменце адзначалася, што ў 1929 годзе КПЗБ выдала інструкцыю, у якой падкрэслівалася неабходнасць распаўсюджвання інфармацыі аб падрыхтоўцы ўздыму паўстання. «Хто сёння ў партыі не выступае за паўстанне, той [...] не ўлічвае радыкалізацыі мас і ўзрост іх баявой энергіі, перашкаджае партыі арганізоўваць барацьбу», — адзначалася ў дакуменце КПЗБ.

## Сакратар-падзёншчык

Адным з актыўных дзеячаў падпольнай Кампартыі Заходняй Беларусі быў ураджэнец вёскі Зарубічы Індурскай воласці (сёння Гродзенскі раён) Казімір Рагачэўскі. Ён працаваў на лесанарыхтоўках і будаўніцтве дарогі Гродна — Індура. Небагатае жыццё падштурхнула хлопца да збліжэння з камуністамі. Казімір уступіў у камсамол, а потым і ў КПЗБ. Урэшце Рагачэўскі стаў сакратаром Індурскага падпольнага райкама партыі. Ужо ў траўні 1930 года польская паліцыя арыштавала падпольшчыка. За антыўрадавую дзейнасць яго прысудзілі да турэмнага зняволення.

Аднак пасля адсідкі былы падзёншчык вярнуўся да палітычнай дзейнасці. 1 траўня 1931 года Казімір Рагачэўскі арганізаваў несанкцыянаваны мітынг, які разагнала паліцыя. Шмат хто з удзельнікаў маніфестацыі быў арыштаваны, аднак завадатар схаваўся і пазбег затрымання. Сакратар ячэйкі КПЗБ агітаваў сялян выступаць супраць палітыкі камасацыі, заклікаў людзей выходзіць на маніфестацыі.

Варта адзначыць, што пасля знаходжання ў турме польскія службы правапарадку адсочвалі дзейнасць Рагачоўскага. Пры гэтым трэба разумець, што сябры КПЗБ — гэта не наіўныя хлопцы, якія толькі раздавалі ўлёткі і агітавалі сялян. Гэтыя людзі былі ўзброеныя пісталетамі і рэвальверамі, і — самае галоўнае — яны былі гатовыя страляць як у палітычных апанентаў, так і ў паліцэйскіх. З «Наганам» у кішэні і агітацыйнымі матэрыяламі, надрукаванымі ў бальшавіцкім Мінску, сябар КПЗБ Рагачэўскі накіроўваўся ў вёскі Навасёлкі, Хамякі, Караневічы, Баранава, Кавалічы. У Зарубіцкім лесе ён зладзіў сход падпольшчыкаў, і нават сустракаўся з адным з важакоў КПЗБ Сяргеем Прытыцкім.

## Крывавая драма

Індура і ваколіцы выклікалі вялікі непакой з боку польскіх уладаў і спецыяльных службаў. Рэўкам і яго сакратар Казімір Рагачэўскі разгарнулі там актыўную дзейнасць. У пачатку сакавіка 1933 года ў пастарунак польскай Дзяржаўнай паліцыі ў Індуры прыйшла інфармацыя, што «агент Масквы» Казімір Рагачэўскі знаходзіцца ў сваім доме ў Зарубічах. На захоп «ворага дзяржавы» адправіўся камендант пастарунку, пшадоўнік (сяржант) Ян Браніцкі разам з 27-гадовым пастарунковым Ізідарам Жадкевічам. Паліцыянты лічылі, што, хутчэй за ўсё, камуніста яны не знойдуць, бо гэта было б сапраўдным нахабствам з яго боку: сядзець і чакаць арышту.

Паліцэйскія прыехалі ў вёску і накіраваліся ў дом Рагачэўскага. Яны ведалі, што маюць справу не з наіўным камсамольцам, а з сапраўдным «палітычным злачынцам». Аднак, відавочна, не ўлічвалі, што сакратар КПЗБ быў узброены. Рагачэўскі, калі ўбачыў паліцыянтаў на ганку, выхапіў «Наган» і пачаў страляць. У выніку паліцыянты атрымалі цяжкія раненні. Казімір Рагачэўскі схапіў рэчы і збег у вёску Кавалічы.

Ужо на наступны дзень камендант Дзяржаўнай паліцыі Гродзенскага павета загадаў пачаць аблаву на сакратара партыйнай ячэйкі, бо гэта ўжо быў не проста распаўсюд камуністычных улётак, а ўзброены напад на паліцэйскіх. За галаву Казіміра Рагачэўскага абвясцілі выкуп — 1000 злотых. Фантастычныя па тых часах грошы.

## Напамін пра трагедыю

Мясцовая настаўніца з вёскі Зарубічы паспрабавала дапамагчы смяротна параненаму пастарунковаму Ізідору Жадкевічу. Хутка яго перавезлі ў Гродна, дзе той і памёр. Між тым «баявік» Рагачэўскі перабраўся праз Нёман і схаваўся ў вёсцы Мазанава. 16 сакавіка 1933 года паліцэйскім удалося лакалізаваць месца знаходжання сакратара КПЗБ. Дапамог падпольшчык Сыралевіч, які за выкуп вырашыў паведаміць пра месца, дзе хаваўся Рагачэўскі. Узмоцненыя сілы правапарадку атачылі вёску. Пачаўся штурм будынку, дзе засеў узброены камуніст. У адказ той адкрыў агонь з рэвальвера. У будынак паляцела слёзатачывая граната. У апошні момант «баявік» вырашыў застрэліцца.

Сёння ў вёсцы Зарубічы на доме, дзе жыў сакратар КПЗБ, ёсць мемарыяльная дошка, адкрытая ў 1960-я гады. Імя Рагачоўскага носяць вуліцы ў Гродна і Індуры.

Пастарунковага Ізідора Жадкевіча пахавалі на фарных могілках Гродна. На надмагільным помніку пазначана, што «паліцыянт загінуў, абараняючы суграмадзян». Помнік паставілі калегі па службе. На жаль, здымак забітага пашкоджаны. Відавочна, пасля падзей верасня 1939 года.

**Фота з архіву аўтара**




Магіла Ізідора Жадкевіча

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Дамінік Бейда быў дастаўлены ў Бельскую турму напрыканцы верасня 1863 года. Нягледзячы на тое, што яму было толькі 54 гады, мужчына выглядаў за старога, да таго ж быў сляпы на левае вока і кульгавы на адну нагу.**



**Наконт сваёй ролі як блазна Дамінік патлумачыў вельмі адкрыта: «Весяліў у атрадзе ўсіх, таму што мяне добра кармілі і паілі гарбатаю і водкаю». Але доказы віны паўстанцкага блазна былі відавочнымі, І асабіста Міхаіл Мураўёў адправіў загад накіраваць у Бельск гарадскога ката для выканання смяротнага загаду праз павешанне**

# Паўстанцкі блазен Дамінік Бейда

Бейда чакаў, калі ваенна-судовая камісія дабярэцца да яго справы і вызваліць з турмы, як і большасць іншых сялян, на ранейшае месца жыхарства пад нагляд паліцыі.

14 кастрычніка Дамінік Бейда быў выкліканы на допыт. Яго гісторыя амаль нічым не адрознівалася ад шматлікіх іншых, ужо не раз чутых прадстаўнікамі камісіі. Бейда, незаконнанароджаны, неадукаваны, каталік, спакойным голасам паведаміў пра прычыну сваёй двухмесячнай адсутнасці ў роднай вёсцы: «Ішоў я да свайго сына ў вёску Корыца, на дарозе мяне запынілі 4 конніка і двое пешых, узброеныя, і забралі мяне ў партыю Баранцэвіча, дзе мяне вартавалі тры дні, а пасля на працягу двух тыдняў я быў у шайцы без асаблівага нагляду. Зброі ніякай не меў, а выбраўшы зручны час, збег з шайкі дахаты, дзе і быў увесь час да арышту. Усе паказанні па існай праўдзе, у чым і прашу распісацца. Дамінік Бейда, а за яго па просьбе падпісаўся шараговы Грыгор Кудакоў» .

На падставе падобных гісторый па ўсім Краі на волю была вызвалена не адна сотня сялян, што прымалі ўдзел у паўстанні. Гэта рабілася па рашэнні віленскага генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва з мэтаю разгрузіць ваенна-судовыя камісіі ад другасных спраў і сканцэнтравацца на вызначэнні ступені віны палітычных злачынцаў, у першую чаргу з ліку шляхты. Селяніну дастаткова было добраахвотна з'явіцца ў следчую камісію, заявіць пра прымусовы ўдзел у паўстанцкім атрадзе, дзе ён не меў нават зброі, не прымаў удзел у сутычках з рэгулярнай арміяй і збег пры першай жа магчымасці. Таму Дамінік Бейда і не сумняваўся, што зрабіў усё правільна, каб хутчэй апынуцца на волі. Але ён не ведаў таго, што яго выклікалі мэтанакіравана, па даносе трох нядаўна арыштаваных сялян, якія паведамілі: Бейда ўдзельнічаў у павешаннях!

Ранкам 14 кастрычніка ў Бельскую ваенна-судовую камісію прыйшлі былыя паўстанцы — Сідар Андранёк, Пётр Жэра і Тодар Мальшэвіч, якія абвясцілі, што ў турэмным замку знаходзіцца пад арыштам чалавек, які займаўся вешаннем, выкопваннем ямаў для павешаных, а таксама выконваў ролю паўстанцкага блазна. Указаная імі асоба выклікала ў камісіі здзіўленне. Яны назвалі імя Дамініка Бейды, якога ў выніку і выклікалі на допыт.

Пасля таго, як Бейда даў паказанні, у пакой да яго ўвайшлі Сідар Андранёк і Пётр Жэра. Пачалася вочная стаўка.

Высветлілася, што Дамінік Бейда ў атрадзе Баранцэвіча, у якім знаходзіўся каля двух месяцаў, быў добраахвотнікам. Ён часта пакідаў лагер і адпраўляўся за харчаваннем. Калі ж паблізу размяшчэння паўстанцаў праходзілі расійскія войскі, Дамінік сыходзіў з атрада і прадстаўляўся жабраком, выкарыстоўваючы ўласныя калецтвы ў якасці прыкрыцця, каб разведаць іх перамяшчэнні і ў выпадку небяспекі, накіраваць іх па фальшывым шляху. Бейда заўсёды выклікаўся прыводзіць у выкананне цялесныя пакаранні, на што пагаджаўся і паўстанцкі стралок Гермуль, былы півавар з вёскі Вількаў.

Сяляне ўзгадвалі: «Вешалі яны заўсёды разам, мы вельмі добра памятаем, як па просьбе памешчыцы Ушынскай, са згоды Баранцэвіча, яны павесілі аднаго хлопчыка гадоў 18-ці за тое, што ён паказваў дарогу казакам, якія ішлі з Цеханаўца; за сухой Гроніцай у Царстве Польскім яны павесілі двух маладых салдат, якіх злавілі паўстанцы ў вёсцы Рудка ў карчме, аднаго штацкага, выдатна адзетага і пастрыжанага па-казацку. За тое, што казацкая фрэзура навяла падазрэнне, што ён пераапрануты казак» .

Акрамя іх у тым самым месцы павесілі яшчэ некалькі чалавек. Андранёк назваў лічбу «не менш васьмі», а Пётр Жэра ўвогуле прыпісаў Дамініку ўдзел у павешанні «не менш 25 чалавек». Сярод іх аднаго з жыхароў Бельскага ўезда, якога «блазен» прывёў у атрад разам з паручнікам Садоўскім, дзяўчыны і пастушка з вёскі Верчыкі — за тое, што яны далі ведаць расійскім войскам, размешчаным у Сямятычах, пра падыход да мястэчка паўстанцаў. Акрамя таго Андранёк і Жэра абвінавацілі Бейду ў здзекаванні са схопленых за здраду супраць паўстанцаў, чым ён рабіў вялікае задавальненне кіраўнікам атрада. Дамінік зброі не насіў, заўсёды хадзіў з венікам, якім падмятаў дарогу, каб не заставалася слядоў таго, што праходзіў атрад. Ён быў першым любімцам Баранцэвіча, разам з ім піў гарбату і еў за адным сталом. Пры гэтым яго часта напойвалі, каб ён танцаваў і смяшыў атрад.

Абвінавачанні ў адносінах «блазна і праваднікa» Бейды пацвердзіў удзельнік атрада Эйтміновіча шляхціц Тодар Мальшэвіч. Ён засведчыў, што аднойчы, калі быў у пікеце, то бачыў, як Дамінік капаў яму ў пятнаццаці кроках ад паўстанцкага паста. Калі выкапаў, то, вяртаючыся ў атрад, мовіў: «Гэта яма для павешанага». Калі ж Мальшэвіч пацікавіўся, каго будуць вешаць, то пачуў, што Бейда не ведае, і што гэта прыходзіцца рабіць яму не першы раз. На наступны дзень Мальшэвіч бачыў, як Дамінік Бейда разам з чатырма іншымі незнаёмымі павесіў аднаго з тутэйшых жыхароў, падазраваных у шпіёнстве. Таго злавілі ў лесе, куды ён прыехаў па дровы разам з 12-гадовым сынам, якога пасля павешання бацькі яшчэ тры дні трымалі пры атрадзе, пакуль не аддалі паліцыянтам. Акрамя таго, Мальшэвіч адзначыў, што Бейда перавёў іх атрад праз Буг, а затым знік невядома куды.

Першапачаткова Дамінік Бейда не згаджаўся з гэтымі абвінавачаннямі, але збіваемы словамі Сідара Адранька і Пятра Жэры прызнаўся, што ён сапраўды ўваходзіў у атрад Баранцэвіча. Быў вельмі шанаваны і выконваў усе загады кіраўніка, а менавіта: паказваў дарогу атраду, пасля яго адыходу замятаў сляды, выкопваў ямы для пахавання павешаных, але ў самых павешаннях ніколі не ўдзельнічаў. Ямы ж выкапаў для больш чым дванаццаці чалавек, і быў прызначаны на гэтую пасаду супраць уласнай волі. Пасля адыходу атрада Баранцэвіча з Бельскага ўезда, Бейда атрымаў дазвол на кароткі час адправіцца дахаты, але праз некалькі дзён павінен быў далучыцца да атрада Эйтміновіча, дзе прабыў толькі два дні. Пасля таго, як перавёў атрад за Буг, быў адпраўлены ў родную вёску, дзе быў схоплены і дастаўлены ў Бельск.

Наконт сваёй ролі як блазна Дамінік патлумачыў вельмі адкрыта: «Весяліў у атрадзе ўсіх, таму што мяне добра кармілі і паілі гарбатаю і водкаю кіраўнікі атрада».

Праз некалькі дзён пасля першага допыту і вочнай стаўкі, 18 кастрычніка 1863 года Дамінік Бейда чарговы раз быў апытаны ў Бельскай ваенна-судовай камісіі і прызнаўся ў павешанні трох невядомых яму чалавек. Пасля гэтага ваенны начальнік Бельска 26 кастрычніка атрымаў прапанову стварыць ваенна-судовую камісію над Дамінікам Бейдам з ліку афіцэраў Сафійскага пяхотнага палка. Доказы віны паўстанцкага блазна былі відавочнымі, асабліва пасля яго прызнанняў. Таму 13 лістапада 1863 года Міхаіл Мураўёў адправіў гродзенскаму ваеннаму кіраўніку загад накіраваць у Бельск гарадскога ката для выканання смяротнага загада праз павешанне.

20 лістапада (2 снежня) 1863 года ў 9.30 раніцы ў Бельску за Бранскаю заставаю быў павешаны Дамінік Бейда, паўстанцкі блазен і вешальнік, удзельнік атрадаў Эйтміновіча і Баранцэвіча.


Фота Алены Каліноўскай


Фота з Інвентара нематэрыяльнай культурнай спадчыны

# Будслаўскі фэст: дарога да UNESCO

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Будслаўскі фэст унесены UNESCO ў Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва. Працэс унясення расцягнуўся амаль на пяць гадоў.**

Спісы UNESCO вядуцца ў адпаведнасці з Канвенцыяй аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны, прынятай у 2003 годзе і ратыфікаванай Беларуссю ў 2005-м. У 2006 годзе яна ўступіла ў сілу, а з 2007-га складаецца беларускі Нацыянальны Інвентар нематэрыяльнай культурнай спадчыны. На сённяшні дзень у ім 71 элемент. Адпаведна Канвенцыі, элементам нематэрыяльнай культурнай спадчыны могуць быць звычаі, абрады, святы, вусныя формы выражэння, выканальніцкія мастацтвы, веды і вопыт, звязаныя з традыцыйнымі рамёствамі, народнай медыцынай, гатаваннем традыцыйнай ежы, адносіны людзей да свету і прыроды.

Унясенне ў Нацыянальны інвентар — абавязковая ўмова для разгляду элемента ў UNESCO. Адпаведна Канвенцыі былі створаны Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва і Спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны, якой патрабуецца тэрміновая ахова. У першым нашмат больш элементаў, туды ўносяцца папраўдзе значныя для цэлай краіны з'явы, што маюць вялікі патэнцыял для развіцця.

Другі спіс сціплы па памерах, але заслугоўвае не меншай увагі. Туды ўносяцца праявы лакальнай культуры, якія падтрымлівае мясцовая супольнасць. Такія элементы могуць нават не быць шырока вядомымі ў краіне свайго бытавання, не выходзіць на нацыянальны ўзровень. Яскравы прыклад — абрад «Калядныя цары» ў вёсцы Семежава Капыльскага раёна, што ўнесены ў Спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны, якой патрабуецца тэрміновая ахова, у 2009 годзе.

Сёлета туды ж накіраваны дакументы на вясновы абрад «Юраўскі карагод», што праходзіць 6 траўня ў вёсцы Пагост (Жыткавіцкі раён). Прапанова будзе разгледжаная ў снежні 2019 года на сесіі Міжурадавага Камітэта UNESCO.

Такім чынам, шлях Будслаўскага фэсту ў прэстыжны міжнародны спіс пачаўся ў 2014-м, калі рыхтавалася дасье для Нацыянальнага інвентару. Мне пашчасціла працаваць у складзе каманды, якая гэтым займалася. Адным з ініцыятараў быў ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. У фэсце ўдзельнічаюць вернікі розных канфесій, але ж Нацыянальны Санктуарый Маці Божай у Будславе належыць да каталіцкага касцёлу, таму ён бярэ найбольш актыўны ўдзел у арганізацыі свята.

Заснаванне Будслаўскага касцёла і цудоўнае аб'яўленне Маці Божай у Будслаўскай пушчы згадваецца ў цыкле твораў Ігната Ходзькі «Літвінскія малюнкі», якія выходзілі ў Вільні з 1840 па 1862 год.

У 1504-м князь літоўскі і кароль польскі Аляксандр Ягелончык аддаў манахам-бернардынцам 600 моргаў лесу над ракой Сервеч, каб законнікі пабудавалі кляштар. Па легендзе, у 1588-м дзясяткі вернікаў сталі сведкамі знамення, калі на небе з'явілася воблака, якое выпраменьвала дзіўноснае святло на манаскія келлі і капліцу. У атачэнні анёлаў з'явілася Найсвяцейшая Дзева Марыя з немаўляткам на руках. Людзі пачулі: «З гэтага часу слава Бога нашага і Сына майго, і мая абарона будуць дадзены вам навечна». Гэтую з'яву апісаў летапісец-бернардынец Томаш Дыгонь у «Praesidentia Budensis», пасля чаго гэта месца сталі ўшаноўваць як крыніцу цудаў і ласкі Божай.

Паводле хронікі будслаўскага бернардынскага кляштара, абраз Маці Божай Будслаўскай знаходзіцца ў Будзе (сучасным Будславе) з 1613 года.

Гісторыя і цуды абраза, пачынаючы з 1617 года, былі апісаны прыёрам Элеўтэрыем Зеляевічам у кніжцы «Задыяк на зямлі». Першы цуд зафіксаваны ў 1617 — вяртанне зроку пяцігадоваму хлопчыку Язафату Тышкевічу, які пазней стаў вядомым айцом-кармелітам. Потым усе цуды запісвалі на сценах тады яшчэ драўлянай святыні. 29 ліпеня 1767 года была закладзена новая базіліка. 7 верасня 1783 прайшло ўрачыстае асвячэнне базілікі пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. У XVII–XVIII стагоддзях культ абраза Маці Божай Будслаўскай атрымаў шырокае распаўсюджанне ў Беларусі. Пасля 1859 года бернардынскі кляштар у Будславе быў скасаваны.

Бернардынцы вярнуліся ў Будслаў у 1996 годзе. 2 ліпеня 1992 прайшло першае масавае паломніцтва вернікаў у Будслаў.

З 2012 года фэст праходзіць у першыя выходныя ліпеня. З кожным годам прыбывае ўсё больш і больш паломнікаў, апошнім часам — да 50 000 чалавек з усіх куткоў Беларусі, а таксама з Расіі, Літвы, Польшчы, Славеніі, Украіны, Італіі і іншых краін.

Кожнае паломніцтва ў Будслаў праходзіць пад якім-небудзь лозунгам, які адлюстроўвае галоўны сэнс прашэнняў каталіцкай царквы да Маці Божай. На ўрачыстасць Будслаўскай Божай Маці да санктуарыю дабіраюцца рознымі шляхамі і спосабамі: па чыгунцы, на асабістым транспарце, аўтобусамі, якія заказваюць прыходы, па вадзе (на байдарках), на веласіпедах. Усіх гэтых людзей завуць паломнікамі (пілігрымамі). Аднак найвялікшай павагай карыстаюцца тыя з іх, хто шлях у Будслаў пераадольвае пешшу. Пілігрымы ідуць з Мінска, Маладзечна, Віцебска, Баранавіч, Нарачы, Ракава, Пінска, а таксама некаторых прыходаў у Літве і Польшчы па 5–10 дзён.

Ночаць у намётах і ў хатах мясцовых жыхароў, тыя з радасцю іх частуюць. Па дарозе паломнікі наведваюць мясцовыя святыні. Напярэдадні галоўнага нядзельнага набажэнства апоўначы праходзіць тысячная працэсія са свечкамі. На другі дзень (у нядзелю) адбываецца святочная імша, якую цэрэбралізуе мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч, іншыя беларускія біскупы. Так, калі коратка, адбываецца фэст.

І вось нарэшце 22 студзеня 2014 года фэст быў унесены ў Нацыянальны інвентар. Неўзабаве пачалася падрыхтоўка дакументаў для падачы ў спіс UNESCO. Галоўнай складанасцю стала зняць фільм, бо ён павінны быць прафесіянальны і якасны, на што трэба сродкі. За справу ўзяўся рэжысёр Уладзімір Арлоў, зняў урачыстасць улетку. Фільм быў змантаваны на пачатку 2015-га і ўвесну пакет дакументаў паступіў на разгляд экспертаў UNESCO. Разгляд цягнуўся больш за год і ў 2016-м прапанова была адхіленая з заўвагай, што варта больш разгорнута паказаць удзел у фэсце мясцовай супольнасці.

Пасля ўнясення правак і дапрацоўкі пакета дакументаў на «Урачыстасць у гонар шанавання абраза Маці Божай Будслаўскай (Будслаўскі фэст)» ён зноў паступіў на разгляд. І вось нарэшце 28 лістапада 2018 года Міжурадавы камітэт па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны UNESCO падчас 13-й сесіі, што праходзіла ў сталіцы Маўрыкія Порт-Луі да 1 снежня, аднагалосна прыняў рашэнне аб уключэнні беларускага элемента нематэрыяльнай культурнай спадчыны «Урачыстасць у гонар шанавання абраза Маці Божай Будслаўскай (Будслаўскі фэст)» у Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва.

На пасяджэнні прысутнічала каардынатарка падачы дакументаў, старшыня Фонду «Культурная спадчына і сучаснасць» Ала Сташкевіч, якая падзякавала Камітэту ад імя нашай краіны.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1253

Падпісана да друку 07.12.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.